А. В. Вольскі, І. А. Гімпель

# Літаратурнае чытанне

Падручнік для **4** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 821.161.3.09(075.2=161.3)
ББК 83.3(4Беи)я71
В71

Рэцэнзент
метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Міханавіцкая сярэдняя школа» (настаўнік пачатковых класаў вышэйшай катэгорыі *М. І. Пятровіч*)

**Умоўныя абазначэнні:**

 — пытанні і заданні да тэкстаў;

 — заданні павышанай цяжкасці;

 — слоўнік

**ISBN 978-985-559-218-2 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-559-217-5**

# КРАІНА МАЯ, РАДАСЦЬ МАЯ, ПЕСНЯ МАЯ МАЛАДАЯ...



## Наш край

*Янка Сіпакоў*

Наш родны беларускі край. Якія прыгожы і непаўторны ён сваімі рэкамі і азёрамі, сваімі лясамі і лугамі, сваімі сцежкамі і дарогамі!

Белавежская пушча і Браслаўскія азёры, Палессе і Свіцязь, Налібокі і Нарач, Бярэзінскі запаведнік і маленькая рэчка Проня... Усё гэта наш родны край, наша спадчына. Яна даецца чалавеку аднойчы і назаўсёды, разам з жыццём.

Так, спадчына, неацэнная, за ўсё даражэйшая. Але хто калі лічыў, колькі на кожнага з нас прыпадае кветак, матылёў, дрэў, птушак, крынічак? Усяго гэтага мы часцей за ўсё не заўважаем. Яно для нас такое ж звыклае, як і паветра, якім мы дыхаем.

Часам нават забываемся, што прырода — не толькі для нас адных. Трэба думаць пра будучыню. Абавязкова трэба пакідаць у ёй месца і той жа рэчцы, і таму ж мурашу. Усе мы на гэтай зямлі суседзі —

рэчка і бусел, дрэва і травінка, кветка і пчала, мураш і чалавек. Зямля ў нас адна. Яна агульная для ўсіх.

Кожны павінен любіць свой край. Чалавек, які любіць зямлю, на якой нарадзіўся, і паважае свой край, які ўзгадаваў яго, робіцца моцны і мудры. Ён не зможа тады пагардліва ставіцца да іншых краёў, іншых земляў.

***Пага́рдліва*** — ганарыста, з адсутнасцю павагі.



1. Чым прыгожы беларускі край? Прачытайце.
2. Што аўтар называе спадчынай? Чаму трэба ахоўваць прыроду? Прачытайце.
3. Што робіць чалавека моцным і мудрым?

## Беларусь

*Пятрусь Броўка*

Зямля Беларусі, зялёныя долы!
З крыніц тваіх чыстых пад шумнай вярбой
Зачэрпнулі думы Купала і Колас,
На кожнай сцяжынцы іх песня і голас
З тваёю журбою і ўцехай тваёй.

Пад гоманы бору, куванне зязюлі
Злажыў Багдановіч тут яркі вянок...
І поле, і пушчы, і рэкі тут чулі,
Як Цётка спявала, як марыў Бядуля,
Як слёзы рассыпаў Мацей Бурачок.

***Маце́й Бурачо́к*** — псеўданім Францішка Багушэвіча, вядомага беларускага пісьменніка.

?

1. З якім пачуццём паэт гаворыць пра Беларусь?
2. Якія словы і выразы ўжывае Пятрусь Броўка, каб перадаць прыгажосць роднай старонкі? Прачытайце.
3*. Пра якіх пісьменнікаў гаворыцца ў вершы? Што вы ведаеце пра іх? Успомніце, якія творы гэтых пісьменнікаў вы чыталі ў 1—3 класах.

## Прыказкі

✦ Для сваёй Айчыны не шкадуюць сілы.
✦ Родная зямля мякчэйшая за чужую пярыну.

## Родныя назвы

*Міхась Пазнякоў*

Усяму вядомы свету
Наш руплівы край здавён.
Тут на сонечных палетках
Спеюць бульба, жыта, лён.

Тут Дняпро бяжыць прывольна,
Сож, Бярэзіна, Дзвіна,
Прыпяць, Шчара, Свіслач, Нёман,
Вілля, Піна, Буг, Дзісна.

Тут крыштальныя азёры —
Нарач, Свіцязь, Снуды, Свір.
Полацк — наш старэйшы горад,
Віцебск, Тураў, Кобрын, Мір.

***Руплі́вы*** — якія імкнецца зрабіць як мага больш і лепш, дбайны.

1. У якіх радках верша гаворыцца пра багацці роднай Беларусі?
2. Якія вядомыя вам назвы беларускіх рэк, азёр, гарадоў ужыты ў вершы?
3. Даведайцеся, чым знакамітыя гарады, якія ўзгадаюцца ў вершы, і чаму атрымалі такія назвы.

## З Міра ў Карэлічы

*Паводле Яўгена Крамко*

Бадай, нідзе ў Беларусі не сустракаў больш прывабных ды такіх непаўторных даляглядаў, як па дарозе з Міра ў Карэлічы. Тут вабіць вока гістарычны помнік — Мірскі замак.

Толькі ўзыдзеш на мост у Трашчычах, як справа — раўнюсенькая Вушанская пойма. За ёю ледзь відаць рэдкія хаты. Праз два кіламетры ўзнімаешся



на горку ў Загор'е, а потым — аграгарадок «Турэц». А злева на гарызонце ўжо вёскі Качаны і Лыкавічы. За імі і Цетра. Які прастор! Які шырокі абшар багатых палёў! Аж сэрца млее ад асалоды. Міжволі глядзіш на гэты свет як зачараванымі вачыма.

А далей чаруе вока рака Сэрвач, якая цягнецца аж да гарызонта, дзе неба кладзецца на зямлю, дзе Нёман і Налібоцкая пушча.



***Абша́р*** — неабсяжная прастора.

***Далягля́д*** — прастора, якую можна акінуць вокам.

***По́йма*** — частка рачной даліны, якая затапляецца ў час разліву.



1. Пра якія непаўторныя далягляды расказваецца ў гэтым творы?
2. Як вы разумееце выразы: *«вабіць вока»; «аж сэрца млее ад асалоды»; «глядзіш на гэты свет як зачараванымі вачыма»; «дзе неба кладзецца на зямлю»*?
3. Што адлюстравана на малюнку? Якімі словамі з тэксту можна было б падпісаць малюнак?
4. Раскажыце пра свой родны куток.

## Радзіма

*Кастусь Кірыенка*

Лепей за ўсё мне на свеце мясціна,
Тая, дзе я нарадзіўся і ўзрос.
Бэз пад акном і на полі каліна,
Ціхае сонца, блакіты нябёс...

Выйдзеш за вёску — жытнёвыя хвалі,
Коцяцца цёплыя плыні наўсцяж...
Клічуць дарогі ў бясконцыя далі...
Самы ты вольны, край бацькоўскі наш.



***Наўсця́ж*** — ва ўсіх напрамках, навокал.
***Плынь*** — тут: рухомы паток паветра.



1. Якія пачуцці выклікаюць у аўтара ўспаміны пра родны куток?
2. Чым вабяць аўтара родныя мясціны? Прачытайце, як ён называе гэтыя мясціны.
3. Як вы разумееце сэнс сказа *«Клічуць дарогі ў бясконцыя далі»*?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора. Падумайце, якія словы выдзеліць голасам, дзе зрабіць паўзу, які выбраць тэмп пры чытанні.

## Прыказкі

✦ Будзь не толькі сынам свайго бацькі — будзь сынам свайго народа.

✦ У родным лесе — і куст родны.

## Шляхі-дарогі

*Васіль Вітка*

Шляхі-дарогі... Паміж гарадамі яны даўжэйшыя і шырэйшыя. Паміж вёскамі — карацейшыя і вузейшыя. Яшчэ меншыя і вузейшыя сцежкі і сцежачкі, пратаптаныя людскімі нагамі. Каб выбіцца на дарогу, вы доўга блукаеце па сцежках. А то і кіруецеся *на-*

*прасткі*, ці, як яшчэ гавораць, *нацянькі, назіркам, разораю, цераз поле*. У нас адно паселішча так і называецца: *Церасполле*. Вы ўжо здагадаліся, чаму яго так назвалі. Каб патрапіць у Церасполле, трэба перайсці цераз поле. Няцяжка, вядома, здагадацца, як утварыліся назвы вёсак: Заполле, Загор'е, Падгор'е, Залессе, Падлессе, Прылессе, Залужжа, Падлужжа, Зарэчча, Надрэчча, Прырэчча.

А як вы растлумачыце назву вялікай дарогі — *гасцінец*? Ці мае гэта назва дачыненне да гасцінцаў, якія звычайна прывозяць нам родныя, блізкія, калі прыязджаюць у госці? Ну вядома ж, мае, бо ўсе гэтыя словы аднаго кораня: *госць, гасцінна, гасціная, гасціннасць, гасцяванне, гасцінцы*.

*Шлях* — таксама вялікая дарога, але мае значэнне болей шырокае і ўжываецца ў самым разнастайным сэнсе. Можа пралягаць не толькі па зямлі, а і па вадзе — *водны шлях*, нават па небе — *Млечны Шлях*, шлях да іншых планет — *зорны шлях*. Ёсць яшчэ



*жыццёвы шлях, баявы шлях, гістарычны шлях*, а таксама — шлях як напрамак дзейнасці, спосаб і сродак, якімі дасягаецца мэта.

Якія шляхі-дарогі, вялікія і малыя, праходзяць па вашай мясцовасці? Куды вядуць? Ці ёсць такія, што перасякаюцца? Як называецца месца, дзе крыжуюцца дзве або некалькі дарог?

*Крыжы, скрыжаванне, ростань, на ростанях*. Якія яшчэ словы можна дадаць да слова *дарога*?

*Дарожны, падарожны, прыдарожны, падарожнік, спадарожнік, здарожаны, здарожыўся. Сцежка, сцежачка, сцяжынка*. Аднолькавы сэнс усіх гэтых слоў ці розны? Складзіце сказы, дзе будзе адно ці два з гэтых слоў.

***Напрасткі́*** — па прамой лініі, самым кароткім шляхам.

?

1. Пра якія шляхі-дарогі гаворыць пісьменнік?
2. Як тлумачацца ў тэксце словы *гасцінец, шлях*? Прачытайце.
3. Як вы думаеце, чаму Васіль Вітка даў апавяданню такую назву?
4. Выберыце з тэксту словы — апісанні дарог, якія сустракаюцца ў вашых мясцінах. Прачытайце.
5. Прачытайце апошнія тры абзацы тэксту. Падрыхтуйцеся адказаць на ўсе пытанні.

## Загадка

Ад дома да дома ходзіць, а ў дом не заходзіць.

## Палескія вобразы

*Якуб Колас*



Цёмны бор, кусты, балоты.
Кучы лоз і дубняку,
Рэчкі, купіны, чароты,
Мора траў і хмызняку.

Пералескі, лес, паляна,
Старасвецкі дуб з жарлом,
Хвоя — веліч на кургане
З чорным буславым гняздом.

Вербы, груша-сірацінка,
Нізкарослы цёмны гай...
Гэта ты, балот краіна!
Гэта ты, палескі край!

***Жарало́*** — глыбокая адтуліна; дупло.
***Курга́н*** — высокі старадаўні магільны насып.
***Хмызня́к*** — кусты, зараснік.
***Саро́т*** — высокая вадзяная або балотная расліна, а таксама зараснік гэтай расліны.

?

1. Якім вам уяўляецца палескі край?
2. Прачытайце словы і выразы, якія дапамагаюць вам уявіць малюнкі прыроды.
3. Падпішыце ілюстрацыю словамі з верша.

### Загадка

Стаяць дзяды над водамі і ківаюць барадамі.

# Бяздоннае багацце

*(Інсцэніраванае народнае паданне)*

*Васіль Жуковіч*

Дзейныя асобы

Баечніца, або вядучая.
Яраслаў — тураўскі князь.
Ранцэвіч — загоншчык.

## З'ЯВА ПЕРШАЯ

Удалечыні — лес. З-за лесу відаць старажытны гарадок.

Баечніца. Жыў некалі ў Тураве князь Яраслаў. Вакол сябе мудрых людзей ён збіраў. І сам быў ён мудры. Багаты князь быў. Між тым паляваць на дзічыну любіў. Аднойчы князь конна за турам скакаў. Імкліва паранены звер уцякаў. Ды раптам спыніўся, крутнуўся і ўраз памкнуўся на коннага князя якраз. Што дзеецца, уцяміць яздок не паспеў. На звера магутнага конь наляцеў. Працяты рагамі, конь князеў упаў. Свайго ездака пад сябе ён падмяў.

Яраслаў. *(Пакутуе, не могучы выбрацца з-пад каня.)* Так блізка рагаты раз'юшаны звер! О Божа! Няўжо я загіну цяпер! Не, не, не! Я так не хачу паміраць! Як выбрацца, Божа, як зброю дастаць?

Баечніца. Але паратунак паслаў яму лёс. Удар зверу ў сэрца загоншчык нанёс. Рагацінай трапна пацэліў таму, што світку на вочы накінуў яму.

Ранцэвіч. За вас я хвалююся, княжа. Як вы? *(Дапамагае вылезці з-пад каня, ставіць на ногі.)*



Яраслаў. О, дзякуй! З тваёй дапамогай — жывы. Ты, лёсам пасланы, жыццё мне прынёс. Цябе ўзнагароджу — прыйдзі ў мой абоз.

## З'ЯВА ДРУГАЯ

Прыгожы шацёр. У ім каля ўваходу — князь, ён чакае госця. Уваходзіць загоншчык Ранцэвіч, вітаецца.

Яраслаў. *(Звяртаецца да Ранцэвіча.)* Як добра, шаноўны, што ты завітаў! Глядзі, вось я з золатам куфар дастаў. Багацце бяздоннае, што я нажыў, дарую табе — ты яго заслужыў. *(Паказвае золата.)*

Баечніца. Быў мудры загоншчык, кіёчак узяў, дастаў ім у куфры да дна і сказаў:

Ранцэвіч. Багацце вялікае, княжа. Адно яно не бяздоннае: у куфры ёсць дно. Дый золата... князю пасуе яно. Ды варта на момант нам выйсці, аднак, і ўбачым мы скарб, у якім няма дна.

Яраслаў *(выходзячы з шатра)*. Цікава, цікава, дзе скарб такі ёсць...

Ранцэвіч *(прывёўшы князя ў поле)*. Вось княжае поле, вось тут, ягамосць, багацце, якое не ведае дна.

Баечніца. Ён меч у зямлю аж па ручку загнаў.

Ранцэвіч *(да князя)*. Во дзіва: і мечам да дна не дастаў!.. Багацце такое за ўсё даражэй. На золата знойдзецца злодзей-ліхадзей. А скарбу такога ніхто не ўкрадзе.

Яраслаў. Што ж, праўда твая. Цаню мудрасць тваю: на шмат пакаленняў табе я даю зямлі, што напраўду не мае цаны.

Баечніца. Прыйшлі ў шацёр неўзабаве яны. Там дарчую грамату князь напісаў. Загоншчык Ранцэвіч яе атрымаў і многа зямлі атрымаў разам з ёй ля вёскі Вялевічы, вёскі сваёй. Ад часу таго і па сённяшні дзень пра мудрага продка паданне ідзе.

Заслона



***Абóз*** — група фурманак (павозак) з людзьмі або грузам.

***Рагáціна*** — паляўнічая зброя.

***Тур*** — дзікі бык.

***Ягамóсць*** — форма звароту да князя, пана.



1. У якую бяду трапіў князь Яраслаў?
2. Як загоншчык Ранцэвіч выратаваў князя?
3. У чым праявілася мудрасць загоншчыка?
4. Якімі словамі можна ахарактарызаваць загоншчыка Ранцэвіча? Чаму?

5. Прачытайце прыказкі. Якая з прыказак найбольш падыходзіць да зместу твора?

*За добрае дабром плаціць трэба.*
*Добра таму дабро рабіць, хто тое памятае.*
*Зямелька — маці наша: і корміць, і поіць, і адзявае.*
*Зямля багацейшая за нас.*

6. Прачытайце паданне па ролях, перадаючы характар кожнай дзейнай асобы.

## Не забывай

*Вера Вярба*

Ад ветру гнуцца вербалозы,
Бяжыць дарога напрасткі.
Мой край — бялюткія бярозы
Абапал сіняе ракі.

Высока ў небе вырай кружыць,
Ляціць за сіні небакрай.
Не забывай ніколі, дружа,
Сваю зямлю, свой родны край.



1. Што славіць паэт у вершы?
2. Якім аўтар уяўляе свой родны край? Якія словы і выразы выкарыстоўвае для яго характарыстыкі?
3. З якім наказам звяртаецца да нас аўтар?
4. За што мы любім нашу Бацькаўшчыну?
5. Вывучыце верш на памяць.

### Прыказкі

✦ Ідзі ў родны край, там і пад елкай — рай.
✦ Усякай птушцы сваё гняздо міла.

## Родная мова

*Максім Танк*

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, —
Ты выткана, дзіўная родная мова.

?

1. З якім пачуццём Максім Танк гаворыць пра беларускую мову? З чаго *«выткана»* беларуская мова?
2. Якія словы і выразы дапамагаюць перадаць прыгажосць роднай мовы?
3. Паразважайце, чаму трэба берагчы родную мову.

## Здагадка

*Уладзімір Скарынкін*

Горад Слонім ёсць на Шчары,
Ды чамусьці не сланы
Топчуць ля яго абшары,
А ласі і кабаны.

Мой таварыш —
самы добры! —
Побліз Кобрына жыве.
Там вужакі, а не кобры
Выгінаюцца ў траве.

Толькі быць не можа ўсё-ткі,
Каб у даўнія гады
Выпадкова нашы продкі
Так назвалі гарады.

Пасвіў я кароў на пашы —
І здагадка апякла:
Некалі ў мясцінах нашых,
Пэўна, Афрыка была!

?

1. Што здалося вам смешным у вершы? Ці так гэта ў сапраўднасці?
2. Якія гарады апісваюцца ў творы?
3. Адкуль пайшлі назвы гарадоў Слонім, Кобрын?
4. Раскажыце пра свой любімы горад (вёску).

## У парку

Разгледзьце малюнак і складзіце па ім апавяданне.



# ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ

**1.** З якіх твораў узяты словы? Назавіце аўтара.

а) «Бадай, нідзе ў Беларусі не сустракаў больш прывабных ды такіх непаўторных даляглядаў, як па дарозе з Міра ў Карэлічы»;

б) «А як вы растлумачыце назву вялікай дарогі — гасцінец? Ці мае гэта назва дачыненне да гасцінцаў, якія звычайна прывозяць нам родныя, блізкія, калі прыязджаюць у госці?»;

в) «Кожны павінен любіць свой край. Чалавек, які любіць зямлю, на якой нарадзіўся, і паважае свой край, які ўзгадаваў яго, робіцца моцны і мудры».

**2.** Па апорных словазлучэннях успомніце назву твора.

а) Родны край, прыгожы і непаўторны, Белавежская пушча, Палессе і Свіцязь, Налібокі і Нарач;

б) Зямля Беларусі, зачэрпнулі думы Купала і Колас, як Цётка спявала;

в) Легенды і казкі, бурлівыя крыніцы, шум дубровы, святыня народа.

**3.** Аднавіце прапушчаныя словы. Успомніце назвы гэтых твораў.

а) «Цёмны бор, кусты, …
Кучы лоз і дубняку,
Рэчкі, купіны, …
Мора траў і хмызняку»;

б) «Ад ветру гнуцца ...
Бяжыць дарога напрасткі.
Мой край — бялюткія бярозы
Абапал сіняе ...».

**4.** Назавіце аўтараў наступных радкоў.

а) «З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц...»;
б) «Горад Слонім ёсць на Шчары,
Ды чамусьці не сланы
Топчуць ля яго абшары,
А ласі і кабаны»;
в) «Тут Дняпро бяжыць прывольна,
Сож, Бярэзіна, Дзвіна,
Прыпяць, Шчара, Свіслач, Нёман,
Вілля, Піна, Буг, Дзісна».

**5.** Падбярыце да слоў *Айчына*, *гасцінец* словы з блізкім значэннем.

**6.** Паразважайце, чаму кожны чалавек павінен любіць свой край.

**7.** Вусна складзіце апавяданне на тэму «Наш родны край».

# РАНІЦАЮ Ў ШКОЛУ СЫДЗЕМСЯ МЫ ЗНОЎ...




## Першы званок

*Артур Вольскі*

Абрывае восень
За лістком лісток.
Сёння роўна ў восем
Зазвініць званок.

Нам зусім не сумна
Хмарнаю парой,
Бо зляцеўся шумны
Наш вучнёўскі рой.

Раніцаю ў школу
Сыдземся мы зноў.
Колькі тут вясёлых
Жартаў і размоў!

Адплывае ў просінь
Лёгкі туманок.
Сёння роўна ў восем
Зазвініць званок.

?

1. Які настрой выклікаў у вас верш?
2. Якую пару года апісвае аўтар? Якія радкі верша гэта даказваюць?
3. Чаму дзецям не сумна хмарнаю парой?

4. Як вы разумееце наступныя радкі верша: *«абрывае восень за лістком лісток», «зляцеўся шумны наш вучнёўскі рой», «адплывае ў просінь лёгкі туманок»*?
5. Вывучыце верш на памяць.

## Прыказкі

✦ Вучыцца заўсёды згадзіцца.
✦ У каго веды — у таго і сіла.

## Загадка-рыфмаванка

*Юрась Свірка*

Электрычны, мілагучны,
Ён усім вядомы вучням.
Звонка кліча на ўрок,
Заліваецца ... .

# Татава аўтаручка

*Мікола Гіль*



Сеў тата пісаць — а ручка не піша. Ён яе і трос, і чарніла нанова набіраў — не піша і ўсё. Гукнуў тады Максімку:

— Сынок, ты маёй ручкі не чапаў?

— Не, тата, не чапаў...

— Такая харошая ручка была! Прыйдуць мама з бабуляй, трэба будзе ў іх спытаць,

мо яны бралі ды незнарок сапсавалі... А ты, сынок, ідзі гуляй.

Максімка паволі пайшоў у свой пакой і гэтак жа паволі зачыніў за сабой дзверы. Тата схіліўся над сталом. Ды неўзабаве Максімка зноў прыйшоў і дакрануўся да татавага пляча:

— А калі мама тваёй ручкі не брала?

Тата ўважліва паглядзеў на сына і, нібы аб нечым здагадаўшыся, сказаў:

— Мабыць, бабуля скінула яе са стала.

— А калі і бабуля не вінавата? — не адступаў Максімка.

— То тады і не ведаю, на каго думаць, — развёў тата рукамі. — Ты ідзі, гуляй, сынок, а мне працаваць трэба.

Але хлопчык не адыходзіў. Ён пастаяў, памаўчаў, затым зноў спытаў:

— І ты будзеш на іх сварыцца?

— На каго?

— На маму і на бабулю.

Тата ледзь прыкметна ўсміхнуўся:

— Пэўна, буду. Такую добрую ручку сапсавалі.

— Шкада мамы і бабулі...

Максімка ўздыхнуў і моўчкі пайшоў у другі пакой.

Цікаў на стале гадзіннік, адлічваючы секунды і мінуты: цік-так, цік-так... Пад гэта ціканне тату добра працавалася. Ён так захапіўся работай, што не заўважыў, як зноў падышоў сын.

— Не сварыся, тата, — паціху прамовіў ён, — не сварыся на маму і бабулю... Насварыся лепей на мяне...

***Незнаро́к*** — выпадкова, ненаўмысна.

?

1. Што спадабалася і што не спадабалася вам ва ўчынках Максімкі?
2. Ахарактарызуйце тату хлопчыка. Які ён?
3. Як вы думаеце, чаму аўтар расказаў гэту гісторыю?
4. Падрыхтуйцеся да чытання тэксту па ролях. Якія пачуцці вы хочаце выказаць, выконваючы тую ці іншую ролю?

## Са школы

*Васіль Зуёнак*

Толькі Пеця за парог
Пасля ўрокаў,
Кот з усіх чатырох —
Ды наўцёкі!

Паліто крылатым птахам
Размахнулася,
Заляцела аж за шафу,
Не вярнулася.

Аб сцяну з разгону ляснулі
Чаравікі...
Хто ж бяду на вас, няшчасныя,
Наклікаў?..



Тата ўраз сакрэты ўсе  
Рассакрэціў.  
Пэўна, дрэнную адзнаку атрымаў  
Пеця...

?

1. З якім настроем вярнуўся са школы Пеця? Як вы здагадаліся? Зачытайце адпаведныя радкі.
2. Чаму нельга так сябе паводзіць?
3. Хто рассакрэціў паводзіны Пеці?
4. З якой інтанацыяй вы будзеце чытаць верш? Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## Загадка

Не куст, а з лісточкамі, не сарочка, а сшыта, не чалавек, а расказвае.

## Сустрэча

*Іван Вярыга*

Усе дзеці са школы пайшлі дарогай, а Саўка — нацянькі. Што яму! Праз новыя глыбокія галёшы вады не набярэш, а балота ён па жардзінках пройдзе, не зваліцца.

«Прыйду дамоў, — радаваўся хлопчык, — і адразу скажу тату: — Бяры заўтра мяне на паляванне. Дзясятка па матэматыцы. Ды якая! Па кантрольнай».

Жардзінкі аказаліся слізкімі ад лёду, і Саўка быў ужо не рад, што пайшоў сюдою. Асцярожна ступаючы і балансуючы рукамі, ён павольна прасоўваўся ўперад. Раптам ля самага канца балаціны насустрач Саўку выскачыў суседскі сабака Тузік, з якім ён часта дурэў.

— Чаго цябе панесла сюды? Дарогі не ведаеш, ці што? — узлаваўся хлопчык. — Ага! Ніяк назад не павернешся. Вось цяпер і лезь у гразь. Бачыў, што я іду, — пачакаць трэба было. Тузік вінавата глядзеў хлопчыку ў вочы.

— Ну, давай назад! — загадаў Саўка.

Сабака матнуў галавой і ўздрыгнуў усім целам.

— Ведаю, як табе не хочацца лезці ў гразь, але нічога не зробіш, — ужо больш лагодна сказаў хлопчык. — Мне ніяк нельга вяртацца. Тады я тату дома не застану, ды і з кладкі зляцець можна. Я ледзьве сюды дабраўся.

Тузік, нахіліўшы галаву, уважліва слухаў, быццам разумеў кожнае слова.

— Ну, чаго вушы развесіў? — павысіў голас Саўка. — Давай! А то вазьму і скіну.

Хлопчык выставіў наперад рукі. Тузік прысеў на заднія лапы і жаласна заскавытаў.

Саўка задумаўся на хвіліну, уздыхнуў і рашуча ступіў у гразь.



Тузік завіляў хвастом і пабег далей па жардзінах.

— Глядзі ж, не зваліся! — крыкнуў яму наўздагон Саўка.

Ледзяная брудная вада адразу прасачылася ў чаравікі, і, каб хутчэй выбрацца на сухое, хлопчык пашлёпаў па гразі, ужо не выбіраючы дарогі.

Дома Саўка сказаў бацьку:

— Шкада мне яго стала. Сам падумай: я магу пераабуцца, на печы сагрэцца, а Тузік усю ноч будзе трэсціся ў халоднай будцы. Яшчэ захварэе.

***Балансу́ючы*** — захоўваючы пры няўстойлівым становішчы раўнавагу пры дапамозе рухаў цела.

?

1. Што вас кранула ў гэтым апавяданні?
2. Прачытайце ўрывак, у якім гаворыцца пра сустрэчу Саўкі з сабакам.
3. Чаго хацеў Саўка дабіцца ад сабакі? Што вырашыў зрабіць? Чаму?

4*. Падзяліце апавяданне на часткі. Складзіце план і падрыхтуйце падрабязны пераказ.

## Задачкі

*Даір Слаўковіч*

Сумна сядзець Алесю пад акном і чакаць, пакуль Змітрок вывучыць урокі і выйдзе на вуліцу. Сумна, а дзе дзенешся? Адзін жа не пагуляеш. Вось і сядзіць Алесь, чакае, гармату дубцом на пяску малюе. Салдата намаляваць не паспеў. На вуліцы паказалася дзяў-

чынка ў блакітнай сукенцы, з белым бантам на галаве. Дзіна. Глядзіць на Алеся, усміхаецца.

— Ты чаго развесялілася? — хмурыцца ён.

— Мне ж не трэба, як табе, чужую хату падпіраць.

Алесь злосна хвошча дубцом па плоце. Раз! Другі!

— Ох, як баліць! — насмешліва кажа Дзіна. Потым робіцца сур'ёзнай. — Я ўжо ўрокі вывучыла, у краму па малако іду. А ты, мусіць, яшчэ і партфеля не расшпіліў?

— Пачакае твой партфель.

— Не мой, а твой. Партфель сцерпіць, а Наталля Восіпаўна наўрад. Як міленькаму заўтра дрэнную адзнаку ўлепіць. Вось пабачыш!..

Над галавою чуецца стук у шыбу. Змітрок!

— Гатоў? — паварочваецца Алесь. — Парабіў?

— Ідзі да мяне ў хату, — паклікаў Змітрок.

Бразгае клямка. Алесь выцірае чаравікі аб старую цырату, засланую каля парога.

— Я чуў вашу размову. Слухай, ты хоць на чарнавік рашы задачкі, — сказаў Змітрок, калі сябар зайшоў у пакой.

— Абыдуся і так. Не прафесарам — вайскоўцам буду.

— Я таксама на прафесара не вучуся. Толькі без матэматыкі ў арміі не абыдзешся.

— У арміі галоўнае — смелым быць. Як лётчыкі.

— Цяперашнія самалёты ведаеш якія? Яны цябе за дваццаць кіламетраў не падпусцяць. Р-раз раке-

тай — і ў крапіву зваліўся. Цяпер лётчыку патрэбен разлік, матэматыка.

— А ты адкуль гэта ведаеш?

— Дзядзька, як прыязджаў, расказваў.

Змітракоў дзядзька — ваенны лётчык, капітан. Летам ён гасцяваў у вёсцы і падарыў пляменніку пагоны з серабрыстымі птушачкамі. На зайздрасць усім вясковым хлапчукам. Змітрок прышпільвае пагоны, калі ідзе гуляць на вуліцу.

Алесь больш не спрачаецца. Раз дзядзька сказаў, значыць, праўда.

— Цяпер у арміі ўсё на разліках, — паважна зазначае Змітрок. Таксама, відаць, словамі дзядзькі. — Нават вылічальныя машыны ёсць, каб хутчэй падлічваць.

— Нам бы ў клас такую, — уздыхае Алесь. — На кантрольную.

— Нам яна не патрэбна. А ім без машыны не абысціся. Каб лепш вучэбным боем камандаваць... Толькі да машыны тае без матэматыкі і не падыходзь.

Алесь уздыхнуў:

— А задачкі на заўтра цяжкія?

— Не браўся яшчэ, не ведаю.

— Давай разам рашаць, га?

— Бяжы дадому па сшытак.

Халоднае восеньскае сонца схавалася за лес, калі хлопчыкі выйшлі гуляць на вуліцу.


***Цыра́та*** — тканіна, пакрытая з аднаго боку асобым саставам, які робіць яе непрамакальнай.

? 1. Чаму Алесю было сумна?
2. Якую размову пачуў Змітрок?
3. Чаму Алесь не хацеў рашаць задачкі?
4. У чым Змітрок пераконваў Алеся? Як паступіў Алесь?
5. Падрыхтуйцеся чытаць тэкст па ролях.
6. Падумайце, які загаловак тэксту далі б вы.

## Загадка

Ноччу маўчыць, удзень гамоніць — маці другая: дзяцей навучае.

## Воўк і навука

*(Байка)*

*Алесь Бадак*

Не даецца навука
Ваўку!
Вунь сядзіць ён адзін
На пяньку,
Уздыхае
І ледзьве не плача:
Не рашаецца зноўку
Задача!

А навокал у лесе
Так хораша!
А вучыцца пад лета
Не хочацца!
І даўно ўжо
На шумнай палянцы
Мяч ганяюць
Вясёлыя зайцы.



Пазяхае над кніжкаю Воўк,
Уздыхае над кніжкаю Воўк:
— Ох, і цяжкія сёння
Урокі!
Мо пайсці папрасіць мне
Сароку,
Каб задачу рашыць
Памагла?
А то можа пайсці
Да Лісіцы?
Ці мо з Зайцамі мне
Памірыцца?

Ды гняздо
У Сарокі —
Высока,
А лісіная хатка —
Далёка.
А мірыцца з касымі —
О гора! —
Замінаюць
І голад,
І гонар!
І сядзіць Воўк адзін
На пяньку.
Не даецца навука
Ваўку!




?

1. Чаму Ваўку не давалася навука? Як пра гэта сказана ў байцы?
2. У каго Воўк хацеў прасіць дапамогі? Прачытайце.

3. Што яму перашкаджала?
4. Разгледзьце ілюстрацыі да тэксту. Знайдзіце радкі, якія да іх адносяцца.
5. Якія недахопы людзей высмейваюцца ў творы?

## Прыказка

✦ Добра таго вучыць, хто хоча ўсё ведаць.

# Каляндар сумлення

*Павел Місько*

1

Як прайшло ўжо колькі ўрокаў малявання, настаўніца сказала:

— Са́ма лепш малююць Толя Васільеў і Сцёпа Мармышка...

Усе вучні раўніва паглядзелі на Толю і Сцёпу. А Коля падумаў: «А мяне не назвала... Я ж Толеў брат».

— Для вас будзе дамашняе заданне: намаляваць класны каляндар надвор'я. Во, на гэтай паперы намалюеце. Дзяжурны будзе кожны дзень адзначаць тэмпературу паветра, ападкі... — Валянціна Іванаўна падняла папяровую трубку, загорнутую ў газету. — Сядайце, сядайце! — спыніла яна Мармышку і Толю, бо тыя ўжо навыперадкі памкнуліся да стала. — Тут я прыкінула, як трэба расчарціць, намаляваць, дзе што напісаць, — яна падняла і паказала маленькі лісток, вырваны са сшытка. — Калі надпісы самі не зможаце зрабіць, папрасіце тату або маму.

Коля крыўдліва ўнурыўся: «А чаму не Толю і мне даручыла? Нам жа лепш каляндар рабіць, мы ў адной кватэры жывём». З-за гэтай крыўды ён нічога не чуў і не бачыў на ўроках. Толя таксама ўвесь чацвёрты ўрок думаў пра каляндар, пра важнасць даручэння.

Дадому ішлі разам з Мармышкам. Бабуля, якая прыйшла сустракаць, забрала ў іх ранцы і ішла памалу ззаду. Коля маўчаў, а Толя і Сцёпа трашчалі, як галкі на коміне: «Мы такое намалюем! Такое!» — «Лепш за ўсіх!» — «Вучні чацвёртага «Б» класа лопнуць ад зайздрасці!»

— Ваш каляндар не будзе прыгажэйшы, чым у першым «Б»! — не стрываў Коля. — Там каляндар бацька аднаго вучня намаляваў. Ён мастак, во!

— А вось і будзе! А вось і будзе! — адказалі Толя і Сцёпа, і можна было падумаць, што гэта два вялікія сябры.

— Я, калі захачу, у сто разоў лепшы намалюю! — крычаў Мармышка. — Я, калі захачу, бацька мне такія акварэлькі купіць! У-у-у… Я, калі захачу…

## 2

Маляваць рашылі ў Толі. Па дарозе Мармышка заскочыў дадому, кінуў сумку.

Прыйшлі, разгарнулі трубку… У ёй былі два аркушы, а не адзін. Нашто два? Настаўніца ж гаварыла намаляваць адзін каляндар.

Палеглі на падлозе жыватамі наўкола аркуша. Пакрычалі, паспрачаліся, каму чарціць, каму расфарбоў-

ваць. Хацеў нешта параіць і Коля, але на яго так дружна накінуліся, што ён змоўк і пайшоў ад іх. Урэшце малявальшчыкі дамовіліся: Толя расчэрчвае і малюе ліхтары простым алоўкам, а Сцёпа расфарбоўвае.

Колю было не ўцярпець, і ён зноў прыйшоў да хлопцаў. Узяў у рукі падшыўку «Вожыка», усеўся на крэсла і пачаў гартаць. «Падумаеш... Ёсць там у іх што глядзець! От у часопісе намалёвана дык намалёвана... Жывоцік надарвеш ад смеху!» — думаў ён.

І знарок моцна хіхікаў, пасмейваўся, чмыхаў, потым рагатаў на ўвесь голас, а на малявальшчыкаў не глядзеў.

— Выйдзі адсюль, ты нам перашкаджаеш! — крычаў на яго Толя.

— А кватэра ўсіхная, не толькі твая! Дзе хачу, там і рагачу! — адрэзаў Коля.

Сцёпа не вытрываў, устаў з падлогі і таксама ўсунуў нос у «Вожык». Рагаталі ўжо ўдвух, а Толя маляваў адзін, лаяўся, гразіў паскардзіцца бабулі.

Бабуля ўрэшце паклікала Колю на кухню. Патрэбна была Колева дапамога: яна накупляла пластмасавых дзіцячых кубікаў і зараз адпілоўвала нажом у кожнага адну сценку. Атрымліваліся чатырохвугольныя вазончыкі. Маленькія, акуратныя, рознакаляровыя... Добра пристаўляюцца адзін да аднаго, мала займаюць месца.

— У іх пасадзім кактусы і кактусяняты... — сказала бабуля.

Праз паўгадзіны Коля заглянуў у пакой. Мармышка сядзеў у крэсле з часопісамі і гыгыкаў над малюн-

камі. А Толя кончыў чарціць і расфарбоўваў вялікія літары загалоўка.

Заглянуў яшчэ праз гадзіну: Толя ўжо канчаў расфарбоўваць загаловак, а Сцёпа ўсё рагатаў над малюнкамі ў часопісах, дрыгаў нагамі.

Яшчэ раз заглянуў: Сцёпа ляжаў з «Вожыкам» на падлозе, а Толя прымяркоўваў па кутках календара — ужо гатовага! — паштоўкі з малюнкамі.

— Э, у мяне лепшыя ёсць! — усхапіўся Сцёпа, адсунуў падшыўку ад сябе.

— Бяжы прынясі, прыклеім, — сказаў Толя.

— А нашто насіцца сюды-туды! Я прыклею дома, а заўтра прынясу ў школу.

Толя згадзіўся, і Сцёпа згарнуў каляндар у трубку, пайшоў.

## 3

Праз гадзіны паўтары, ужо цямнела, бабуля пайшла ў гастраном. Вярнулася і гаворыць:

— А Сцёпа яшчэ і не заходзіў дадому. Мяч ганяе з хлапчукамі, а каляндар пад пахаю...

Толя хацеў бегчы на двор сварыцца са Сцёпам. Але бабуля не пусціла:

— Ты сваё зрабіў? Зрабіў! Нават больш, а вам жа даручылі абодвум. Калі што, то заўтра паглядзіш. А цяпер рабі ўрокі. Коля вунь ужо два зрабіў...

Раніцаю Сцёпа прынёс Толю каляндар. Завэдзганы, скамечаны. Паштоўкі прыляпіў так, што з-пад іх расцякліся ў бакі струмені клею.

— Нічога, добра будзе... Мы ж не мастакі. Гэта ў «Б» класе дык бацька-мастак ёсць, — апраўдваўся Сцёпа.

Толя знямела глядзеў на каляндар: ён быў падобны да бруднай анучы.

— Ну, я пабег. Трэба яшчэ ўрокі рабіць, — Сцёпа крутнуўся і ўцёк.

Добра, што настаўніца дала запасны аркуш паперы! Добра, што заняткі ў іх пачынаюцца ў другую змену! Добра, што Коля парабіў урокі і бабуля дома была — памаглі!

Зноў Толя пластом ляжаў на падлозе, размячаў, расчэрчваў. Коля перабіраў навагоднія паштоўкі, падшукваў малюнкі. Бабуля выстругала з тоўстага сырога дубца лапатачку-пяро, роўненька падрэзала. І хвілін за дзесяць чырвонай тушшу напісала гэтай лапатачкай прыгожы загаловак — «Каляндар надвор'я».



— Засохне, дык ты яшчэ алоўкам дай каляровыя цені літарам. Сняжынкі сям-там раскінь, воблачкі, сонейка... Назвы месяцаў і лічбы я напішу...

Праз гадзіну новы каляндар быў гатовы. Асцярожна загарнулі ў газету...

У клас убеглі Толя і Коля тады, як празвінеў званок.

— Пакажы каляндар, — адразу выхапіў Мармышка трубку з рук Толі. Тр-р... Ж-жых... Парваў газету, разгарнуў паперыну.

А тут і настаўніца зайшла ў клас.

— Добры дзень, дзеці!

— Валянціна Іванаўна! — кінуўся Мармышка да настаўніцы. — Во, я зрабіў «Каляндар надвор'я».

— Добра, дзякую. Пачнём урок, — сказала настаўніца.

Толя аслупянеў ад такога нахабства Мармышкі. І не знайшоў, што сказаць. У вачах закруціліся слёзы.



***Заве́дзганы*** — запэцканы, забруджаны.

***Наха́бства*** — бесцырымонная назойлівасць, бессаромнасць.

***Сумле́нне*** — маральная ацэнка сваіх дзеянняў і ўчынкаў.

***Уну́рыцца*** — тужліва схіліць галаву.



1. Якія пачуцці ўзніклі ў вас пры чытанні твора?
2. Чаму ў вачах Толі закруціліся слёзы?
3. Якім вам уяўляецца Мармышка? Пацвердзіце свае меркаванні словамі з тэксту.

4. Якім паказаны ў творы Коля? Якія словы і выразы з тэксту пацвярджаюць вашу думку? Прачытайце.
5. Падумайце, чаму аўтар даў тэксту такую назву?
6. Падрыхтуйцеся чытаць тэкст па ролях.
7*. Зрабіце слоўныя малюнкі да кожнай часткі.

## Дапамога

*Алесь Якімовіч*

Стрымліваючы хваляванне, Пеця націснуў на званок. Дзверы расчыніліся, і ён убачыў высокага хударлявага мужчыну.

— Вы да мяне?

Пеця збянтэжыўся. Не чакаў гэтага «Вы».

— Вас Ігнатам Васільевічам зваць? Вы франтавік?

— Усё правільна, малады чалавек.

Пеця зусім разгубіўся.

— Я Пеця Сіняк. Сіняк-слабак у класе клічуць, — нечакана прызнаўся ён. — Гэта Ваня Мялешка прыдумаў...

Ігнат Васільевіч пасадзіў Пецю ў мяккае крэсла, сам сеў насупраць.



— Цябе, відаць, са школы прыслалі, каб дапамагаў мне, ветэрану.

— Ага, — кіўнуў галавою Пеця.

Ігнат Васільевіч усміхнуўся:

— А чаму цябе слабаком называюць?

Пеця апусціў вочы, пачырванеў да вушэй.

— Я самы слабы ў класе, бо часта хварэю... Вам, напэўна, непатрэбна мая дапамога?

— Патрэбна, Пеця, вельмі патрэбна, — сказаў Ігнат Васільевіч. — Ты хварэеш часта — бяда ў цябе. І мне кепска. Сэрца баліць. Дактары раяць бегаць. Але боязна аднаму. Давай разам бегаць.

— Зімою? — не паверыў Пеця. — Холадна ж!

— Хіба ты не хочаш мне дапамагчы?

Пеця ўздыхнуў і мусіў пагадзіцца:

— Добра. Няхай будзе па-вашаму.

Непрыкметна мінула зіма. Неяк у класе пачалі прыгадваць, хто як ветэранам дапамагае.

— Я Ігнату Васільевічу бегаць дапамагаю, — пахваліўся Пеця.

Ваня Мялешка засмяяўся:

— Слабак бегаць дапамагае!.. Ха-ха-ха...

Крыўдна стала Пецю. Скончыліся ўрокі, і ён, падышоўшы да Вані, гучна, каб усе чулі, сказаў:

— Давай навыперадкі паспрабуем. Пабачым, хто з нас слабак...

На школьны стадыён пайшлі ўсім класам.

— Колькі кругоў пабяжым? — запытаўся Пеця.

— І аднаго хопіць, — адмахнуўся Ваня.

Пабеглі. Вырваўся Ваня ўперад. Пеця за ім трымаецца, не адстае. Ваня хутчэй, і ён хутчэй. Перад апошняй павароткай рвануўся, ураз Ваню абагнаў. Ваня сышоў з бегавой дарожкі і напрасткі, праз школьны стадыён, дахаты падаўся.

А сябры абступілі Пецю, здзіўляюцца:

— Дзе ж ты гэтак бегаць навучыўся?

— Я ж вам казаў, што Ігнату Васільевічу бегаць дапамагаю. Хворы ён. Дактары параілі, каб бегаў. І я заўсёды побач з ім...

?

1. Як называлі Пецю ў класе? Чаму?
2. Аб якой дапамозе папрасіў Пецю Ігнат Васільевіч?
3. Што прапанаваў Пеця ў адказ на насмешку аднакласніка?
4. Як праходзілі спаборніцтвы? Зачытайце.
5. Чаму апавяданне мае назву «Дапамога»?
6. Прачытайце тэкст самастойна і падрыхтуйцеся чытаць яго па ролях.

## Верабейка

*Эдуард Луканскі*

1

...Было гэта яшчэ восенню. Настаўніца Паўліна Міронаўна параіла вучням завесці сшытак назіранняў, каб яны запісвалі туды свае ўражанні аб сустрэчах з прыродай.

— Вы можаце запісваць і свае назіранні за асобнымі прадстаўнікамі жывёльнага свету, — сказала на-

стаўніца. — Толькі для гэтага трэба выбраць аб'ект назірання і ставіцца да яго ўважліва і пільна.

Дома Валодзя сеў за стол, разгарнуў сшытак і задумаўся: «Аб чым пісаць?» У Валодзі не было ні сабакі, ні кошкі, ні марской свінкі, ні нават хамячка. А дзікі звярок ці птушка — гэта ж такі складаны аб'ект.

Калі на наступным уроку настаўніца запыталася, ці выбраў сабе хто аб'ект для назіранняў, амаль усе паднялі рукі. Называліся самыя розныя аб'екты: конь, кот, сабака, голуб, папугай...

— Ну, а ты? — раптам спытала Валодзю настаўніца.

І тут Валодзя, неяк і не думаючы, бахнуў:

— Буду весці назіранне за вераб'ём!

Усе гучна зарагаталі. І нехта адразу ж прыляпіў яму мянушку «Верабейка». Крыўдная мянушка, якая ў дадатак падкрэслівала, што ён самы слабы ў класе, адбіла тады ў Валодзі ахвоту да гэтага аб'екта назірання...

## 2

Навучальны год цягнуўся марудна, але нарэшце скончыўся. І Валодзя паехаў у вёску, да бабулі. Пусты сшытак для назіранняў амаль выпадкова аказаўся ў яго чамадане.

— Бабуля, а як ты адносішся да вераб'ёў? — спытаў ён аднойчы.

— О-о! Верабей — птушка, якая заслугоўвае павагі. Яна спакон веку жыве побач з людзьмі. З даў-



няга часу вераб'інае племя карміласся каля каня. Селянін асвойваў новыя землі, а за яго канём вераб'і пранікалі далёка на поўнач і ўсход.

У вас у горадзе жыве гарадскі верабей, а ў нас у вёсцы яго бліжэйшы сваяк — верабей палявы. Наш драбнейшы, затое прыгажэйшы. Вунь там яны жывуць, пад застрэшшам.

### 3

Сапраўды, вераб'ёў было шмат. На першы погляд здавалася, што ўсе яны падобныя адзін да аднаго. Але, паназіраўшы, Валодзя заўважыў, што адзін з іх — шустры, другі — бясхвосты, трэці — чысцёха, у якога ўсе пёркі прылізаны, быццам ён толькі што пакінуў цырульню. Былі і сціплыя, якія трымаліся ўбаку. А як яны будуць паводзіць сябе, калі падсыпаць ім харчу?

Шустры верабей адразу адшукаў зярняткі. Дзеўбануў раз, другі... і неяк асабліва, заклікальна чырыкнуў, запрашаючы на абед усіх сваіх суродзічаў. Імгненна наляцела вераб'іная чарада, і без бойкі і

сваркі птушкі ўмомант здзяўблі зярняткі. Вось гэта Валодзю і здзівіла. Ён паўтарыў дослед — і з радасцю зрабіў першы запіс у сваім сшытку: «Верабей не дзяўбае корм адзін!» Гэта было яго адкрыццё.

«Вось прыеду дамоў, абавязкова раскажу Сёмку і Уласу, — падумаў хлопчык. — Яны ж ніколі нічым не падзеляцца. Няхай павучацца ў верабейкі».

Цяпер Валодзя пільна прыглядаўся да палявых вераб'ёў. Яны сапраўды былі трохі драбнейшыя за гарадскіх, але больш прыгожыя, як і казала бабуля. Асабліва ў чарадзе вызначаўся адзін, такі зграбны, з карычневай шапачкай і чорнымі плямкамі на шчоках. Гледзячы на яго, цяжка было паверыць, што гэта — просты верабей.

Неяк бабуля сказала Валодзю, што вераб'і выводзяць птушанятак па некалькі разоў за лета. Паўторна пачынаюць адкладваць яйкі ўжо праз тыдзень пасля вылету з гнязда першых птушанят. І гэта Валодзю таксама вельмі здзівіла:

— А як жа маленькія, хто іх корміць, выхоўвае? Хто вучыць іх лятаць?

4

І Валодзя заняўся гэтым пытаннем. Неўзабаве ён адзначыў, што вераб'іхі большую частку часу праводзяць у гнёздах. А вераб'ю-бацьку даводзіцца старацца з усіх сіл, каб сям'я не галадала. Яму трэба карміць увесь вывадак, пакуль дзеці не стануць самастойнымі і не навучацца лётаць. А там чарговы вывадак — і так усё лета.

«Вось гэта тата! Сапраўдны! — з нейкім сумам падумаў Валодзя. — А мой дык кінуў нас з мамай, калі я быў такі ж маленькі, як вось гэтыя верабейкі...»

І ў сшытку з'явіўся яшчэ адзін запіс: «У верабейкаў вельмі клапатлівыя і добрыя бацькі».

Валодзя вельмі хваляваўся, калі ў маленькіх вераб'ёў надышоў самы небяспечны перыяд у жыцці. Гэта першыя гадзіны, калі яшчэ няўмелыя, куртатыя падлеткі пакідаюць гняздо. Аднойчы Валодзя ўбачыў, як адзін з іх на слабых яшчэ крыльцах сяк-так спланіраваў з вышыні, спрабуючы апусціцца на галінку дрэва, але сарваўся і зваліўся на зямлю. Птушанё пачало крычаць, і Валодзя хацеў кінуцца яму на дапамогу, але яго апярэдзіў «чужы» верабей. Ён падляцеў да птушаняці, нешта «сказаў» яму і пачаў карміць. Потым стары верабей паляцеў, а прыляцелі іншыя, таксама «чужыя» вераб'і і цэлы дзень увіхаліся каля малога. Вечарам верабейку ўжо цяжка было злавіць.

— Зусім як у добрых сяброў, — радаваўся Валодзя. — «Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго!»

І гэта была яшчэ адна выснова, зробленая ім.

Ад суседа, дзядзькі Міколы, Валодзя даведаўся, што ў адрозненне ад гарадскіх палявыя вераб'і больш харчуюцца насякомымі. І ў гэтым іх вялікая карысць. Яны ачышчаюць сады, агароды, пасевы ад пражэрлівых шкоднікаў.

— Бабуля, а чаму некаторыя людзі не любяць вераб'ёў? — аднойчы запытаў Валодзя. — Гэта ж такія сімпатычныя птушкі!

— А вось людзі, на жаль, не ўсе сімпатычныя, — сур’ёзна адказала бабуля і, крыху падумаўшы, дадала: — Ёсць такія, што бачаць ва ўсім толькі дрэннае. Верабей запэцкае падаконнік альбо падзяўбе вішні — і яго зараз жа аб’яўляюць зладзюжкай, шкоднай птушкай. І не прымаюць да ўвагі, што гэта дробязь у параўнанні з тым карысным, што ён робіць для нас.

Бабуля ўздыхнула і задумалася. Яна доўга сядзела моўчкі, а потым, не гледзячы на Валодзю, загаварыла:

— У вайну спалілі немцы нашу вёску. Жылі мы ў зямлянцы. А вось дзе тады было вераб’інае жытло — не ведаю. Але яны заўсёды былі разам з намі. Побач і ў сцюжу, і ў непагадзь. Што здзіўляла, дык гэта іх здольнасць прыстасоўвацца да цяжкіх жыццёвых умоў. У гэтым яны вельмі падобныя да людзей!

Пасля гэтай размовы з бабуляй Валодзю ўжо зусім не здавалася крыўднай мянушка, якую яму далі ў класе. Ды такой мянушкай можна нават ганарыцца!

Ужо больш як дзесяць старонак напісаў Валодзя пра вераб’ёў у сшытку, а кожны дзень прыносіў усё новыя і новыя звесткі пра жыццё гэтай птушкі.



Неяк вечарам перад ад’ездам у горад Валодзя прачытаў бабулі свае запісы. Бабуля моўчкі абняла яго і прыхінула да сябе:

— Усё дакладна. Асабліва добра ты прыкмеціў, як вераб’і клапоцяцца пра маленькіх. У іх такі закон: «Накармі галоднае птушаня!» Добры закон. Ну, а самае галоўнае, за што я люблю гэтых птушак, дык гэта за тое, што яны ніколі не пакідаюць сваю радзіму. Хаця ім бывае і нялёгка...



***Выснóва*** — вывад, заключэнне.
***Застрэ́шша*** — край страхі, які навісае над сцяной.
***Куртáты*** — з кароткім хвастом.



1. Якое заданне атрымалі вучні ад настаўніцы?
2. Які аб’ект для назіранняў выбраў Валодзя?
3. Прачытайце запісы, якія з’явіліся ў Валодзевым сшытку назіранняў.
4. Чаму хлопчык спачатку крыўдзіўся на сяброў за мянушку «Верабейка», а потым стаў ганарыцца ёю?
5. Чым вераб’і адрозніваюцца адзін ад аднаго? Ад іншых птушак? Як пра вераб’ёў сказаў дзядзька Мікола? Бабуля? Прачытайце.
6. Які закон птушак мог бы быць карысным і для людзей? Прачытайце.
7. Прачытайце апошні абзац тэксту. Як вы разумееце яго сэнс?
8. Дайце загалоўкі кожнай частцы апавядання і перакажыце змест адной з іх (на выбар).
9. Складзіце працяг апавядання: раскажыце, як у класе ўспрынялі назіранні хлопчыка.

## Прыказка

✦ Птушка малая, а карысць ад яе вялікая.

## Загадка

Яе мы сябрам называем,
Яна ж нам тайны раскрывае.
Мы з ёй павінны век дружыць,
Бо вучыць нас на свеце жыць.

# Кніга

*(П’еса-казка)*

*Паводле Васіля Жуковіча*

Дзейныя асобы

Кніга
Пеця-пастушок
Месяц
Невук
Лужок
Цішыня

### З’ЯВА ПЕРШАЯ

Лета. Побач з возерам — лугавая раскоша травы, красак. Сутонне. На небе ўбіраецца ў сілу поўня. На траве ляжыць Кніга.

Кніга *(прыўзнімаючы галаву, тужліва)*. Забыў мяне тут Пеця-пастушок... Няўжо ў траве і заначую?.. *(Чуецца шоргат чыіхсьці ног.)* Што гэта? Я чыесьці крокі чую! *(Кніга прыслухоўваецца. Набліжаецца Невук.)*

Наплывае хмара, і цьмянее святло поўні.

Невук *(гучна)*. Што, пані, падабаецца лужок? *(Заліваецца смехам.)*

Кніга *(устаючы)*. Вы да мяне?..

Невук. А да каго ж?! Па-мойму, людзям ты — на ліха, бо іншых мучыш, а сама ляжыш, лайдачыш.

Кніга. Хто вы такі?

Невук. Хіба не бачыш? Я — Невук. Як магла ты не пазнаць?!

Кніга. Пазнала я. І ты павінен знаць, што маю працу не заўжды відаць, але няма і ў тым сакрэту, што без мяне было б нялёгка свету.

Невук. Што ты сказала?! Я — павінен знаць! Мяне яшчэ ты будзеш павучаць!..

Кніга. А што я дрэннае раблю? Табе што дрэннае зрабіла?

Невук. Такіх спрадвеку не люблю. Я паважаю толькі сілу. *(Хапае Кнігу, трасе яе.)*

Кніга. Пусці! Пусці мяне! Балюча!

Невук. Маўчаць! Твой лепет надакучыў!

Кніга. А я ж цябе даўно цярплю...

## З'ЯВА ДРУГАЯ

На сцэну, задыхаўшыся, выбягае Пеця. Ходзіць па траве, шукае Кнігу і не знаходзіць яе.

Пеця *(да Лужка, прачула)*. Ці не бачыў, Лужок, ці не чулі, краскі, я тут Кнігу забыў — там такія казкі! Я ж яе так бярог! Так яе люблю я! Як забыць яе мог! Без яе гарую...

Лужок *(голас за сцэнай)*. Толькі што была яна, чулася і гамана — злоснік яе мучыў, ён і мне тут надакучыў.

Пецця *(занепакоена)*. Ясны Месяц! Месяц ясны! У пакутах я! Ці не бачыў, даражэнькі, Кніга дзе мая?

Месяц *(голас за сцэнай)*. Кніга? Бачыў Кнігу, бачыў, на траве яна была. Але потым недзе знікла, калі хмара наплыла.

Пецця. Цішыня! Ты памажы мне — у пакутах я. Ці не бачыла, не чула, Кніга дзе мая?

Цішыня *(голас за сцэнай)*. Чула, хлопча, й зараз чую, ты прыслухайся і сам — Кнізе гора: завалодаў ёю Невук!

Пецця прыслухоўваецца.

Пецця. Чую, чую галасы.

## З'ЯВА ТРЭЦЯЯ

Невук *(да Кнігі)*. Ну, вось і вадзічка, як вока, азерца... Купацца не любіш, але ж давядзецца...

Невук цягне Кнігу ў возера. Наперарэз яму бяжыць Пецця.

Пецця. Ах ты, злыдзень! Скуль прыйшоў? Што ты ўчыняеш?! Пачакай жа! Кухталёў зараз атрымаеш!

Баязлівы Невук губляецца, пакідае ахвяру і ўцякае.

Пецця. Вось так, «герой»... Пабег! Пабег, адно мільгаюць пяты... *(да Кнігі)*. Прабач мне, родная, прабач, я страшна вінаваты.

**Кніга.** Нічога, застаюся жыць... З табою век хачу дружыць.

Кніга і Пеця бяруцца за рукі, кланяюцца гледачам.

Заслона



***Атрымáць кухталёў*** — быць пабітым.

***Пóўня*** — фаза Месяца, калі відзён увесь яго дыск.

***Сутóнне*** — паўзмрок паміж захадам сонца і надыходам ночы, а таксама перад світаннем.



1. Хто дзейнічае ў п'есе-казцы?
2. Якія прыгоды адбыліся з Кнігай?
3. Чаму Пеця прасіў прабачэння ў Кнігі? Што яна яму адказала? Прачытайце.
4. Чым адрозніваецца гэты твор ад верша і апавядання? Назавіце адметныя рысы.
5. Прачытайце п'есу-казку самастойна. Размяркуйце тэкст па ролях і праінсцэніруйце п'есу ў класе.

* * *

*Эдзі Агняцвет*

Я добрую кнігу,
Як цуда, люблю.
Яна асвятляе
Людзей і зямлю.

На кожнай старонцы
Адкрыю сакрэт.
Там ветразь пад сонцам,
Таемны сусвет.

З табою, кніга добрая,
Ідзём у новы век.
Ты мудрая і шчодрая,
Як добры чалавек!

? 1. Чаму аўтар называе кнігу цудам?
2. З кім параўноўваецца кніга ў вершы?
3. Як вы разумееце сэнс выразу «*На кожнай старонцы адкрыю сакрэт*»?
4. Чаму кнігу лічаць мудрай і шчодрай?

## Прыказкі

✦ Ад навукі дужэюць розум і рукі.

✦ Дрэнныя тыя рукі, што не ведаюць ніякай навукі.

✦ З кнігай дружы, прачытай і другім раскажы.

✦ Навука для чалавека, як сонца для жыцця.

## Як быць?

*Рыгор Барадулін*

Колькі будзе
Пяць на пяць?
Слон не можа ўцяміць.
Значыць, трэба завязаць
Вузялок на памяць.

І нядоўга думаў слон,
Завязаў свой хобат.
Раніцой прачнуўся ён —
Мае новы клопат.

П’юць ваду
Вярблюд,
Індык.

Слон у перапудзе:
Як развяжа хобат,
Дык
Множанне забудзе.

Хто параду можа даць?
Млосна ад развагі:
Лепей ведаць
Пяць на пяць
Ці канаць ад смагі?!





***Кана́ць*** — тут: пакутаваць.
***Мло́сна*** — нядобра, моташна.
***Уця́міць*** — зразумець сэнс, змест чаго-небудзь, поўнасцю ўсвядоміць што-небудзь.

?

1. Што вам падалося смешным у гэтым вершы? Чаму?
2. Знайдзіце ў тэксце словы, якія рыфмуюцца.
3. Як вы разумееце выраз *«завязаць вузялок на памяць»*?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Голасам перадайце настрой верша.

# Гуляем у словы

*Уладзімір Мацвеенка*

Слова
Са словам
Складзіце —
Сэнс
Аб'яднаны
Знайдзіце.

* * *

Мой пачатак —
Навальнічны,
Рэшта —
Водарасцей слой,
А ўсё разам —
Я камічны,
Мудры казачны герой.

* * *

Прыправа
І нота
Займелі лады —
Стварылі ахвотна
Драбніцу вады.



? 1. Якія словы атрымаліся? Як вы здагадаліся?

## Прыказка

✦ Слова да слова — будзе мова.

## Чаму Васілёк спазніўся на ўрок?

Уважліва разгледзьце малюнкі.
Складзіце па малюнках апавяданне.






## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ

**1.** Якія творы з раздзела вам найбольш спадабаліся і запомніліся?

**2.** Назавіце аўтараў наступных слоў.

а) «Дома Валодзя сеў за стол, разгарнуў сшытак і задумаўся: “Аб чым пісаць?”»;

б) «Сеў тата пісаць — а ручка не піша... Ён яе і трос, і чарніла нанова набіраў — не піша і ўсё»;

в) «Малявацъ рашылі ў Толі. Па дарозе Мармышка заскочыў дадому, кінуў сумку».

**3.** З якіх вершаў узяты радкі? Хто аўтар гэтых вершаў?

а) «Нам зусім не сумна
Хмарнаю парой,
Бо зляцеўся шумны
Наш вучнёўскі рой»;

б) «Паліто крылатым птахам
Размахнулася,
Заляцела аж за шафу,
Не вярнулася».

**4.** У якіх творах расказваецца пра справы дзяцей? Выберыце правільны адказ.

а) «Сустрэча»;
б) «Каляндар сумлення»;
в) «Татава аўтаручка»;
г) «Як быць?»;
д) «Верабейка»;
е) «Кніга»;
ж) «Першы званок».

**5.** Выберыце для пераказу адзін з прапанаваных твораў. Перакажыце тую частку выбранага вамі твора, якая найбольш спадабалася.

а) «Верабейка»;

б) «Каляндар сумлення».

**6.** Назавіце творы і прачытайце з іх урыўкі, якія адпавядаюць малюнкам.









**7.** Успомніце, які верш, змешчаны ў гэтым раздзеле, вы вучылі на памяць. Хто яго аўтар? Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша на памяць.

**8.** Успомніце, з якіх твораў узяты ўрыўкі. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання аднаго з твораў.

а) «Жардзінкі аказаліся слізкімі ад лёду, і Саўка быў ужо не рад, што пайшоў сюдою. Асцярожна ступаючы і балансуючы рукамі, ён павольна прасоўваўся ўперад. Раптам ля самага канца балацiны насустрач Саўку выскачыў суседскі сабака Тузік, з якім ён часта дурэў»;

б) «— Цяперашнія самалёты ведаеш якія? Яны цябе за дваццаць кіламетраў не падпусцяць. Р-раз ракетай — і ў крапіву зваліўся. Цяпер лётчыку патрэбен разлік, матэматыка.

— А ты адкуль гэта ведаеш?

— Дзядзька, як прыязджаў, расказваў»;

в) «— Патрэбна, Пеця, вельмі патрэбна, — сказаў Ігнат Васільевіч. — Ты хварэеш часта — бяда ў цябе. І мне кепска. Сэрца баліць. Дактары раяць бегаць. Але боязна аднаму. Давай разам бегаць.

— Зімою? — не паверыў Пеця. — Холадна ж!

— Хіба ты не хочаш мне дапамагчы?».

**9.** Прыдумайце працяг апавядання па прапанаваным пачатку.

Вераб'іха і вераб'яняты купаліся ў лужыне, а непадалёку, прыціснуўшыся да зямлі, прагнымі вачанятамі сачыў за імі кот...

# КАЖУЦЬ, У ДАРОЗЕ ВОСЕНЬ ЗАЛАТАЯ...



## Восень

*Янка Галубовіч*

Адышло, адкрасавалася лета. І неяк нячутна, спадцішка падкралася восень. Спачатку непрыкметна, але з кожным днём усё спарней і гусцей кладуцца кругом яе фарбы-вясёлкі. Шалясціць жоўта-залацістым лісцем бяроз вецер. Трапечуцца агніста-чырвоныя макаўкі асін. Зацвілі сінія, як лён, верасы. Зарудзеліся ярка-чырвоныя гронкі рабіны. Пунсавеюць галінкі спелай каліны.

Ападаюць на зямлю аранжавыя, жоўтыя, чырвоныя, белыя пялёсткі апошніх асенніх кветак астраў і вяргінь. У празрыстым паветры плывуць срабрыстыя павуцінкі. Над рэчкаю і лагчынамі паўзуць сівыя туманы.

У такія пагодлівыя восеньскія дні ў лесе рэхам адгукаюцца галасы грыбнікоў. Там-сям сустракаюцца

яшчэ грузды і махавікі, сыраежкі і масякі, зялёнкі і падзялёнкі, ваўнянкі і курачкі. Грыбы гэтай пары самыя чыстыя і ядраныя.

Але вось па небе паплылі чорныя, збэрсаныя ветрам хмары. Яны нізка паўзуць над будынкамі. І здаецца, што неба яшчэ бліжэй падалося да зямлі. Бесперапынку, дзень за днём ідзе косы і халодны дождж. І не бачна яму канца.

На куцай вяршыне ліпы мокне сіратлівая буслянка. Вецер рабаціміць мутныя лужыны, гоніць па тратуары мокрае пачарнелае лісце.

Пройдзе некаторы час, і закружацца ў танцы лёгкія сняжынкі. А на падшэрхлы дол ляжа бела-бялюткі, як вата, першы снег.



***Збэ́рсаны*** — пераблытаны, заблытаны.
***Лагчы́на*** — нізіна, нізкае месца сярод схілаў.
***Падшэ́рхлы*** — крыху падсохлы.
***Пунсаве́ць*** — рабіцца пунсовым, чырвоным.



1. Як аўтар паказвае змены ў прыродзе восенню? Якія словы і выразы выкарыстоўвае ён для гэтага? Прачытайце.
2. Знайдзіце ў тэксце дзеясловы і прыметнікі, з дапамогай якіх ствараюцца ўяўленні пра восень.
3. Прачытайце тэкст самастойна і складзіце яго план.
4*. Уявіце сабе, што вы трапілі ў лес у пару залатой восені. Складзіце апавяданне аб тым, што вы бачыце вакол сябе.

## Не спяшайся, восень

*Мар'ян Дукса*



Штосьці ад бярозы
Лісце адлятае.
Кажуць, у дарозе
Восень залатая...

Ты ўсё бліжай, бліжай —
Не спяшайся, восень.
Ты прыходзь тады ўжо,
Як пажнём, пакосім.

Бульбу пакапаем,
Кошыкамі зносім.
Хлебным караваем
Стрэцім цябе, восень.

Як дабро палічым,
У засекі звозім —
Мы цябе паклічам,
Мы цябе папросім.

?

1. Якім настроем прасякнуты верш?
2. Чаму аўтар просіць восень не спяшацца? Пацвердзіце свае адказы словамі тэксту.
3. Разгледзьце ілюстрацыю. Параўнайце малюнак са зместам верша.
4. Вывучыце верш на памяць.

## Ясныя дзянькі восені

*Якуб Колас*

Сярод гнілой восені выдаюцца часам ясныя, светлыя дні.

Ціха ўсюды. Вецер не скалыхне ні адзін лісцік, ні адну травінку. Ласкавае неба пазірае на зямлю; нідзе ні хмурынкі. Ясна і хораша, усё роўна як вярнулася лета. Падарыла восень людзям яшчэ некалькі ясных, светлых і цёплых дзён.

Хоць усюды і ціха, цёпла і ясна, але ўжо не вее тым жыццём, якое відаць вясною. Куды ні кінь вокам, на ўсім бачыш след восені. Хмурны хваёвы лес чуць заслаўся сінім дымком туману. А бярозы, асіны і дубы чырванеюць здалёк сваім лісцем і напамінаюць сабою аб восені. На ўсім ляжыць сіняваты слой смугі не то дыму, не то туману.

А прыслухаешся — такая цішыня навакол! Толькі часам закрычаць у небе дзікія гусі, ключом пранясуцца жураўлі і схаваюцца ў сініх хвалях далёкага яснага неба. Крык іх заціхае памалу і замрэ, расплывецца ў цішыні асенняга дня.

Плаўна носіцца ў паветры белая павуціна, сцелецца па зямлі, чапляецца за кусты і сухую траву. Прайшло цёплае лета. Апошнія вы, ясныя дзянькі восені!

?

1. У якіх зменах у прыродзе адчуваецца подых восені?
2. Якія радкі тэксту ствараюць малюнак восені?
3*. Параўнайце апісанне восені ў творы Янкі Галубовіча «Восень» і замалёўцы Якуба Коласа «Ясныя дзянькі восені».

## Лістапад

*Рыгор Ігнаценка*

У лесе лістапад. Стракатыя дрэвы з хмызнякамі паволі скідваюць долу свой дарагі асенні ўбор.

Хораша ў гэты час прысесці дзе-небудзь на сухі пянёк або бураломіну і паназіраць за гэтай прывабнай урачыстасцю ў прыродзе.

Вось з бярозкі адзін лісток вінтом да зямлі ўкручваецца. Другі, паскараючы абароты, валікам па ветру коціцца. Трэці матыльком пырхае над парыжэлай травою, доўга выбіраючы сабе месца. А гэты, буры, лёгкім галубком пераляцеў усю прасторную палянку і паволі апусціўся ў канцы яе пад чырвоны куст брызгліны.



У розных дрэў па-рознаму лісце ападае.

Ясені скідаюць лісце зялёнае — быццам тыя цацачныя драбінкі з блакітнага неба злятаюць долу.

Ёсць свае асаблівасці ў асіны, дуба, рабіны.

Няма лістоў, якія аднолькава б ападалі. Колькі б іх ні было ў лесе — і кожны з іх па-свойму з асенняй зямлёй сустракаецца.



***Брызглі́на*** — кустовая расліна.
***Бурало́міна*** — дрэва, паваленае бурай.

?

1. Як выглядае лес у час лістападу?
2. Як падаюць асобныя лісткі? Прачытайце.

3. Якія словы і выразы, параўнанні выкарыстоўвае аўтар пры апісанні лістападаўскага пейзажу? Прачытайце.
4. Зрабіце слоўны малюнак да тэксту.
5. Які асенні месяц з'яўляецца багатым, рознакаляровым, прыгожым, а які месяц змрочным, сумным? Чаму?

## Арэхі і агрэхі

*(Байка)*

*Эдуард Валасевіч*

Ледзь празвініць званок,
Усхопіцца з-за парты Васілёк
І куляю ляціць дахаты —
Яго лясныя вабяць шаты!
Цудоўны лес у восеньскія дні:
Бярозкі нібы золатам абліты,
Гараць рабіны, бы ў агні,
І хвоі ціхай задуменнасцю спавіты...

А вунь сарока села на дубовы сук,
Мурашнік — пад таўшчэзнаю сасною,
Вавёрка скокнула над галавою,
І вожык выйшаў паляваць гадзюк,
А можа быць, на сонейку пагрэцца...
Ну а арэхаў! Куст крані —
Град залаты забомкае, здаецца,
Ты толькі торбу разгарні,
Глядзіш — паўнюткая яна, як вока...

Хлапчук блукаў па лесе да змяркання,
Забыўшыся на хатнія заданні,
Ні аднаго не вывучыў урока.
Так праз арэхі
У вучобе паявіліся агрэхі.
— Ну як не сорам? Толькі год пачаўся, —
Настаўніца чытае Васільку мараль, —
А ты, на жаль,
Разленаваўся.

---

Любі прыроду і аберагай,
Але пра справы ты не забывай!



***Агрэ́хі*** — недаробкі, недахопы.
***Спаві́ты*** — абмотаны, закручаны.



1. Чым вабіў хлопчыка лес?
2. Чаму ў вучобе ў Василька з'явіліся агрэхі?
3. Прачытайце апошнія радкі байкі і растлумачце, як вы іх разумееце.

## Каралеўская дзічына

*Рыгор Ігнаценка*

Золкая зямля трывала скавана асеннімі замаразкамі. Каб паставіць на полі цецеручыныя чучалы, даводзіцца з дому браць малаток і долата, з дапамогай якіх потым умацуеш іх у мёрзлай зямлі.

Дый вопратка ў паляўнічага далёка не асенняя — цёплы аўчынны кажушок, валёнкі, футравая шапка-вушанка, рукавіцы.



З самага ранку я расставіў на азімым полі каля ляска цецеручыныя чучалы. Забраўся ў сціртy духмянай саломы, што стаяла непадалёк, і вырашыў паснедаць, пакуль цецерукі яшчэ не вылецелі з балота на поле. Толькі адкрыў тэрмас з гарачым чаем, гляджу: дзікая гусь каля чучалаў апусцілася. Выцягнула доўгую шыю і насцярожана на падманных птушак утаропілася.

Да чучалаў восенню ахвотна падсаджваюцца розныя пералётныя птушкі. Часцей за ўсё гэта шпакі, дразды, галубы, берасцянкі. Але каб гусь села — гэткага яшчэ не даводзілася бачыць.

Дзікая птушка амаль такая ж, як і свойская, толькі трохі цямнейшая ды худзейшая.

Здаўна на Беларусі дзікіх гусей каралеўскай дзічынай лічаць. І далёка не кожны паляўнічы меў шчасце падвесіць да ягдташа такі дарагі трафей. Таму прынесці дамоў дзікую гусь — вялікая спакуса.

І ўсё ж я не ўзяўся за стрэльбу. Чаму, спытаецеся? Дзікія гусі — птушкі чародныя. Наўрад ці каму даводзілася бачыць гусь адну. Ці то восенню, калі гусі, журботна гагочучы, адлятаюць у вырай, ці то вясною, калі яны, расцягнуўшыся шнурком у блакітным небе, зноў вяртаюцца ў родныя мясціны, птушкі гэтыя заў-

сёды чарадою. А калі гусь адзінокая — гэта ўжо няшчасце, відаць, такое ж, якое бывае з чалавекам, які адаб'ецца ад сяброў.

Як жа на няшчасці, хай сабе на птушыным, рукі грэць?

Птушка, мабыць, заўважыла падман, ірванулася ў шэрае асенняе неба і, спалохана гагочучы, знікла з вачэй.

Аднекуль з вышыні паволі мне пад ногі апусцілася шэрае пёрка. Я паклаў яго ў ягдташ — на памяць.



***Трафе́й*** — здабыча як сведчанне поспехаў у паляванні.

***Ягдта́ш*** — паляўнічая сумка для дзічыны.



1. Чаму паляўнічы не ўзяўся за стрэльбу?
2. Які сэнс заключаны ў словах: *«Як жа на няшчасці, хай сабе на птушыным, рукі грэць?»*
3. Што пакінуў сабе на памяць паляўнічы? Прачытайце.
4. Прачытайце тэкст і падрыхтуйцеся сцісла пераказаць яго згодна з планам:
   - Цецеручыныя чучалы.
   - Дзікая гусь.
   - Не ўзяўся за стрэльбу.
   - На памяць.

## Увосень

*Якуб Колас*

Дзень маркотны, невясёлы…
Па зямлі пайшоў туман.
Чуць відаць і лес, і сёлы,
Чуць відзён з імглы курган.

Дробны дождж бесперастанку,
Як скрозь сіта, усё імгліць.
Гразь настала каля ганка,
З капяжа ўсё капаціць.

Толькі жоўты лісцік клёна,
Як пяро, на ніз ляціць,
Толькі галка і варона
Нудна ў полі закрычыць.

?

1. Пра якую восень гаварыцца ў вершы?
2. Якія малюнкі восені адлюстраваў паэт?
3. Якія словы і выразы даюць магчымасць найбольш ярка ўявіць гэтыя малюнкі? Растлумачце сэнс выразу *«з капяжа ўсё капаціць»*.

## Добры чалавек

*Павел Місько*

Шмат у лесе дзічак — і груш, і яблынь. Ідзеш-ідзеш, і раптам стомленае вока як не ўзрадуецца. Без усякай маскіроўкі, не трэба і прыглядвацца, ляжаць пад дрэвам яблыкі...

Сустракаю ў лесе знаёмую бабулю Веру. Нагрузілася, як мурашка: у адной руцэ кіёк і торбачка, а ў другой — перагароджаная папараццю на дзве палавіны лубянка. У адной палавіне грыбы, у другой — грушы і яблыкі. На спіне напакавала нечым заплечны мяшок. Не бабуля — турыстка!



— А-а, і ты тут! — узрадавалася яна, убачыўшы мяне. — Не трэба з лесу ісці з пустымі рукамі. От я і нясу ўсяго... Давай пройдзем крыху ды сядзем, адпачнём.

Ідзём, гамонім. Бабуля азіраецца кругом, нешта ўсё выглядае.

— Ну, вось тут і прысядзем, — гаворыць яна і апускаецца на траву. — На, пакаштуй... Не махай рукамі, не аднеквайся: ты такія не еў... — і падае яна мне дзве грушы.

Смакую. І праўда, адна лепшая за другую. І сок смачны, і каменьчыкаў амаль няма.

— А паляжаць — за вушы не адцягнеш. Ого — грушка-гнілушка, ды яшчэ лясная... Унукі мае прыгаршчамі іх цярэбяць. Іх і сушыць можна. А які кампот смачны з яблык-дзічак! І павідла з іх, і варэнне можна рабіць. Ну, а цяпер пакаштуй во гэту...

Трэцяя груша была як садовая. Мо бэра, мо вінёўка.

— А цяпер во гэты яблычак... — падала мне бабуля вялікі, з курынае яйка, яблык.

— Штрыфель?! — пазнаў я па смаку. — Але пахне незвычайна, як мёдам. На дзічку і не падобны.

— А гэта і не дзічка. Быў такі чалавек у нашым сяле — Захарка. Капаў у лесе дзічкі, у сады пераносіў, прышчэпліваў. Вельмі смачныя яблыкі, калі прышчэпліваць да лясных. А потым стаў па лесе хадзіць, дзе маладзенькую грушу ці яблыньку сустрэне — зрэжа, прышчэпіць, дзе старэйшую — то галінку ці дзве прышчэпіць. Знойдзеш цяпер такое дрэўца — як падарунак на свята.

— Помнік сабе чалавек зрабіў... — кажу я.

— Але, каторы год, як яго няма, а людзі ўсё дзякуюць чалавеку. Дабро — яно жывучае. А цяпер паглядзі назад!

Я азірнуўся. На паляну схілілася Захаркава яблыня. Дзве галіны на ёй былі незвычайныя — на адной яблыкі былі белыя, як папера, і круглыя, на другой — жоўта-аранжавыя, сплюшчаныя, як рэпкі.

Мы падышлі бліжэй.

— Як сонца... Налілася проста... Залаты ранет, — сказала бабуля Вера.

Твар яе свяціўся, нібы не Захарка, а яна стварыла гэты цуд.

 ***Лубя́нка*** — ручны кораб з лубу, бяросты для захоўвання, пераноскі чаго-небудзь.

?

1. Якой вы ўяўляеце бабулю Веру?
2. Якім чалавекам быў Захарка?
3. За што людзі дзякавалі Захарку? Прачытайце.
4. Як вы разумееце выразы: *«Дабро — яно жывучае»*, *«Помнік чалавек сабе паставіў»*?
5. Знайдзіце апісанне Захаркавай яблыні. Прачытайце.
6. Падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу тэксту.

## Прыказка

✦ Добрая справа не забываецца.

## А таму!

*Мікола Янчанка*

1

Змітрок, Валодзя і Маня ў лес ідуць. У грыбы, мусіць. Ромка таксама ўхапіў кошык ды на вуліцу:

— І мяне вазьміце!

— Хадзем, — кажа старэйшы Змітрок. — Што нам — лесу шкада, ці што? Толькі не адставай ад нас. Каб не згубіўся часам.



— Добра, — паабяцаў Ромка, — не адстану.

Да лесу рукой падаць. Збеглі ў лагчынку, перайшлі па кладцы рэчку і ў алешнік. А за алешнікам на ўзгорачку сасоннік, у якім дзе-нідзе бярозкі трапляюцца. Унізе ж малады ельнічак. Самы баравіковы лес!

## 2

Усе прама пайшлі. А Ромка бачком, бачком ды налева. Рашыў прабегчы па тых мясцінах, дзе яны з бацькам надоечы былі. Вось і знаёмая канаўка паўз дарогу. Ромка адразу крок прыцішыў, прыгнуўся крыху, пачаў уважліва заглядваць пад елачкі ды разграбаць прыўзнятыя лісточкі. І аж уздрыгнуў ад нечаканасці: з-пад лапак выглядваў каранасты прыгажун баравік. Ромка палюбаваўся ім, не спяшаючыся, зрэзаў і паклаў у кошык. Ступіў некалькі крокаў — яшчэ адзін, азірнуўся вакол — трэці, чацвёрты!

А дзесьці ў глыбіні лесу крычалі Змітрок, Валодзя і Маня. Яго клікалі. Але Ромка не адгукаўся. «Яшчэ сюды прыбягуць і мае баравікі пахапаюць», — думаў ён. Асабліва пашанцавала яму на лабячку паміж дзвюма дарогамі. Сюды ні адзін грыбнік не заглядваў. Толькі Ромкаў бацька. І недарэмна. Зайшоў і Ромка і паклаў у кошык некалькі сямеек чорнагаловікаў.

## 3

Цяпер галасы Змітрака, Валодзі і Мані сталі ледзь чутныя.

Ромка спалохаўся і пабег да сяброў.

— Дзе гэта ты бегаў? — незадаволена сустрэў яго Змітрок. — Мы ўсе ногі пазбівалі, цябе шукаючы.

— Заблудзіўся я, — зманіў Ромка і апусціў долу вочы. — Адышоўся ад вас і заблудзіўся.

Падбеглі Валодзя і Маня.

— А мы цябе шукалі, шукалі, — пачала сыпаць Маня. — Думалі ўжо ў вёску бегчы ды старэйшых клікаць...

— Дадому час, — спыніў яе Змітрок і звярнуў на дарогу.

Ромку было няёмка перад сябрамі. Ён ішоў за імі, калі ўвайшлі ў вёску.

— Глядзі ты, — дзівіліся сустрэчныя, — такі малы, а поўны кошык баравічкоў накалупаў! А ты, Змітрок, пэўна, варон лічыў. Толькі дно закрыў.

Хацеў Змітрок сказаць, што не да баравікоў яму было, што вось гэтага Ромку шукаў, ды змаўчаў.

Назаўтра Ромка сам да Змітрака пайшоў. Там Валодзю і Маню застаў. З кошыкамі.

— І я з вамі! — гукнуў Ромка.

— Не, — панура адказаў Змітрок, — мы цябе з сабой не возьмем.

— А чаму?

— А таму! — адказаў за Змітрака Валодзя.



***Лабячо́к*** — адкрытая мясцінка.

***Надо́ечы*** — зусім нядаўна, днямі.



1. Як Ромка збіраў грыбы?
2. Што ў гэты час рабілі астатнія дзеці?
3. Чаму Ромку было няёмка перад сябрамі?
4. Ці зразумеў хлопчык, чаму дзеці не хочуць узяць яго з сабой? Якімі словамі з тэксту вы можаце пацвердзіць свае адказы? Зачытайце.

5*. Падбярыце загалоўкі да кожнай часткі апавядання.
6. Складзіце план твора і сцісла перакажыце яго адпаведна плану.

## У грыбы

*Пімен Панчанка*



Бярыце, дзеці, кошыкі,
Паедзем мы на пошукі
Тугіх баравікоў.
А то яны застояцца,
Пад лісцямі затояцца
Ад лісаў і ваўкоў.

Вясёлая трывога
Прагнала моцны сон...
Блакітная дарога
З асенніх верасоў.

А бор такі духмяны,
Загадкавы такі!
Крамяныя, духмяныя
Стаяць баравікі.

А бабак, сыраежак
Не возьме і гультай.
Хадзі сабе з усмешкай,
Настой лясны глытай.

***Крамя́ны*** — моцны, пругкі, цвёрды.



1. Якія карціны «намаляваў» паэт у вершы? Як вы разумееце выраз *«Вясёлая трывога прагнала моцны сон»*?
2. Знайдзіце і прачытайце радкі, якія расказваюць пра бор і грыбы.
3. Чаму аўтар гаворыць, што *«бабак, сыраежак не возьме і гультай»*?
4. Ці ведаеце вы, як правільна збіраць грыбы?
5. Прачытайце верш выразна.

## Загадка

Груд зямліцы разваліўся,
З-пад ігліцы хто з’явіўся?
Ад дожджыка, ад сонейка
Прыкрыўся парасонікам.

## Грыбы-лесавікі

*Міхась Вышынскі*

Грыбы — цікаўныя лясныя жыхары.

Неяк выйшлі мы з Вадзікам на сонечную верасовую паляну. Прыселі на імшаную купіну, каб перадыхнуць, агледзеліся і заўсміхаліся.

Проста перад намі пазіраў у неба, узабраўшыся на высокі пень, грыб-трутавік. Ва ўсёй паставе — напружанасць і цікаўнасць: што там робіцца на небе?

А там кучаравяцца белыя воблакі, між імі разліваюцца азёрцы блакіту. Над воблакамі кружыцца



коршак, імкне кудысьці серабрысты рэактыўны самалёт.

А вунь да стажка мурашніка падышоў баравік. Важны, бурагаловы, з пукатай ножкай. Стаў і, узяўшы нябачныя рукі ў бокі, дзівіцца з мурашак, з іх мітуслівай работы.

Далей — болей.

Вунь да самага камля бярозкі прыціснуўся шэрабокі абабак. Відаць, ён намагаецца залезці на дрэва і з вышыні яго агледзець увесь лес. А можа, проста хоча пагушкацца на галінах і пагрэцца на сонцы?

За гэтым абабкам замірае, сагнуўшыся і злёгку прыкрыўшыся мохам, махавік. Ён слухае зямлю: ці хутка вылезуць на свет ягоныя браты і сябры?

Збоку махавіка — зеленаватая сцежка. Па ёй чародамі бягуць да лясной ручаіны шустрыя лісічкі і сыраежкі. Ім дужа цікава паглядзець там

на сябе. І прыхарашыцца, папіць халоднай вадзіцы.

Грыбы — жыхары яшчэ і асцярожныя. Калі я адвёў ад іх вочы, крыху пагаманіў з Вадзікам, яны раптам недзе пахаваліся. Не стала ні гарэзлівых лісічак і сыраежак, ні трутавіка і абабка.

Нерухома стаялі на сваіх месцах толькі махавік і баравік. Мы ўзялі іх сабе ў спадарожнікі і падаліся на іншыя палянкі. Чым здзівяць тыя палянкі нас з Вадзікам?

?

1. Чым здзівіла хлопчыкаў верасовая паляна?
2. Якімі чалавечымі рысамі надзяліў аўтар лясных жыхароў? Пацвердзіце свае выказванні словамі тэксту.
3. Што новага вы даведаліся пра грыбы?
4. Перакажыце змест апавядання блізка да тэксту.

## Зажурыўся лес шумлівы

*Янка Журба*

Зажурыўся лес шумлівы,
Дрэвы жаласна шумяць.
На галінках, на сучочках
Зоркі-крапелькі вісяць.

Не шчабечуць ужо болей
Птушкі звонкія ў палях,
І не лётаюць вясёла
Матылёчкі на лугах.

Няма кветачак у полі,
Не красуе васілёк,
І не ззяе пазалотай
Поле жытняе здалёк...

?
1. Які настрой выклікаў у вас гэты твор? Чаму?
2. Рэальная ці казачная карціна апісана аўтарам? Якія словы дапамагаюць стварыць казачную карціну восені?
3. Растлумачце значэнне выразаў: *«зажурыўся лес шумлівы», «не красуе васілёк», «ззяе пазалотай»*.
4. Прачытайце верш выразна.

## Асеннія рамонкі

*Іван Аношкін*

Пра тое, што сёння праводзяць на пенсію іх бабулю, Паўлік і Люда пачулі, вяртаючыся са школы. Старшыня калгаса дзядзька Даніла сказаў шафёру:

— Пятро, вазьмі на маім стале грамату, пакункі ды паедзем на ферму Ганну Пракопаўну віншаваць!

— Дзядзька Даніла! — падскочыў да старшыні Паўлік. — Ганна Пракопаўна — гэта ж наша бабуля!

— А-а, ды тут юная змена! — пазнаў іх дзядзька Даніла. — Правільна: ваша бабуля, а наша лепшая даярка!.. На пенсію сёння праводзім... Сядайце ў машыну, ды разам паедзем!

— Не, мы спярша кніжкі дамоў занясём, — не згадзілася Люда. — Праўда, Паўлік?

— Давай з кніжкамі, — карцела Паўліку праехаць.

— Нічога ты, Паўлік, не разумееш! — ухапіла яго за руку Люда. — Хадзем!.. Я табе нештачка скажу...

«Газік» рушыў да фермы, а дзеці наперагонкі пабеглі на самы край вёскі. Там, крыху наводшыбе, зіхацеў шырокімі вокнамі мураваны дом, у якім нядаўна справіла наваселле іх сям'я.

— Ну, кажы!.. Прызнавайся, чаму ты не паехала? — калі аддыхаліся, нецярпліва спытаў Паўлік. — Хіба ты не хочаш паглядзець, як нашай бабулі будуць даваць падарункі?

— Дык і нам трэба...

— Што нам трэба?

— Ну... Зрабіць сваёй бабульцы нейкі падарунак.

— А што ж мы падарым?

Каб гэта былі дома тата з мамай, хутчэй бы што прыдумалі. Ды тата, калгасны электрык, у камандзіроўцы; мама, заатэхнік, у сельскагаспадарчай акадэміі на нейкіх курсах.

— І думаць няма чаго: падорым кветкі! — рашыла ўрэшце Люда.

— З акна, што ў вазоне?

— Ну і дзівак! Сама ж бабуля іх садзіла і палівала, а мы...

— Тады нарвём на лузе!

— А дзе ж яшчэ, як не на лузе.

Хуценька паклалі партфелі і пабеглі на лужок за вёскай.

Але лужок сустрэў іх непрыветліва. Ужо выгарала, пабурэла трава. На пажоўклых кустах павіслі празрыстыя павуцінкі. І хоць бы дзе адна кветачка.

— А помніш, Люда, каля залеснай дарогі рамонкі ў аптэку на лекі збіралі? Хадзем туды.

У аптэку на лекі школьнікі збіралі рамонкі ў час летніх канікулаў. Тады ад кветак там было аж бела. А цяпер і каля залеснай дарогі прайшла восень у сваім жоўтым сарафане, таму цяпер адзін рамонак тут, другі там. І не параўнаць іх з летнімі: дробныя, з тоненькімі пялёсткамі. Ды давядзецца і гэтакія рваць. Хоць доўга хадзілі, назбіралі-такі букецік.

Ды зноў бяда: пакуль яго неслі, кветкі завялі. Ну як такія дарыць бабулі? Паставілі дома ў слоік з вадой.

Мусілі без падарунка, з пустымі рукамі, абы не спазніцца, бегчы на ферму.

І якраз у час паспелі: дзядзька Даніла скончыў сваю прамову і ўручаў бабулі грамату і падарункі. Расчуленая бабуля сцерла з твару слязу, паабяцала, што, пакуль мае сілу, будзе памагаць калгасу.

Дамоў ішлі гаманкім гуртам. Паўлік асцярожна, каб не разбіць, нёс у цэлафанавай абгортцы чайны посуд. Люда — пакункі з іншымі падарункамі, а нібы памаладзелая бабуля — грамату ў чырвонай вокладцы.

А дома іх сустрэлі рамонкі з высока ўзнятымі, як сонейкі, галоўкамі.



— Бабуля, і рамонкі цябе віншуюць!

— Дзе ж гэта вы, унучкі, такім часам прыстараліся?

— Каля залеснай дарогі. Неслі табе, ажно глядзім — зажурыліся...

— А зараз — дзіва, дый годзе — зноў ажылі!

— Э-э, мае вы мілыя!.. Адчулі кветачкі вашу ласку і акрыялі... Вось так і чалавек: абы яго падтрымалі, усцешылі, дык і ўзбадзёрыцца, адкуль тая сіла возьмецца!

***Акрыя́ць*** — ачуняць, набрацца сіл, акрэпнуць; ажыць душой.

***Карце́ць*** — жадаць што-небудзь зрабіць; хацець.

***Мурава́ны*** — пабудаваны з цэглы або каменю.

***Наво́дшыбе*** — убаку, на некаторай адлегласці.

?

1. З якой датай віншавалі бабулю Ганну Пракопаўну?
2. Чаму Люда і Паўлік не паехалі разам са старшынёй калгаса адразу на ферму, дзе працавала бабуля?
3. Які падарунак бабулі вырашылі зрабіць унукі?
4. Дзе і як дзецы збіралі букецік?

5. Прачытайце апошні абзац апавядання. Патлумачце, як вы разумееце словы бабулі?
6. Падзяліце тэкст на часткі згодна з планам:
   - Навіна.
   - Падарунак бабулі.
   - Букецік.
   - На ферме.
   - Рамонкі для бабулі.
7. Падрыхтуйце падрабязны пераказ адной з частак тэксту.

## Набліжалася восень

*Уладзімір Дубоўка*

Набліжалася восень да нас
ціхутка.
Уцякала лета ад восені
хутка.

Пагубляла, уцякаючы, лета
ўборы.
А яны — у імшарах, у пушчы —
як зоры.

Як чырвоныя зоры, каліна,
брусніцы.
У іх пра новае лета надзея
ільсніцца.

 ***Ільсні́цца*** — ёсць, праяўляецца ў малой ступені.

? 1. Як аўтар апісвае змену пор года? Прачытайце.
2. Якія ўборы згубіла, уцякаючы, лета? Паразважайце.
3. З чым параўноўваюцца брусніцы і каліна?
4. Прачытайце верш выразна.

## Лясная госця

*Янка Галубовіч*

У яркую пазалоту прыбраліся асіны, клёны і бярозкі. Зрэдку з-за шэрых калматых хмарак выгляне сонца.

— Курлы-курлы-курлы...

Гляджу ў неба, на клін журавоў, і сэрца мае поўніцца журбою: «Ляціце, родныя, ляціце... Толькі назад не пазніцеся...»

Жураўліны клін знікае з вачэй. Бяру кошык, іду ў грады і тут жа спыняюся.

Хто ж гэта пагаспадарыў тут? Цэлы радок морквы як ветрам здзьмула!.. І бацвінне з буракоў пазрывана... І капуста пачапана... Чыя ж то работа будзе? Мо хто асмеліўся з лесу падысці? Ён жа амаль да самай хаты падступае...



Верх узяла цікавасць, і я рашыў папільнаваць градку.

Вечар быў ціхі, бязветраны. Стаю ў сенцах і праз акенца пазіраю на градку. Чакаць доўга мне не давялося.

Спярша на панадворку пачулася шпаркае патупванне капытоў. А тады ля градкі морквы з'явілася маладзенькая казуля. Цела зграбнае, лёгкае. Ногі — усё адно як вытачаныя.

Я не стаў праганяць казульку.

 ***Панадво́рак*** — двор каля хаты.



1. Па якіх прыкметах можна вызначыць, што аўтар гаворыць аб восені? Прачытайце.
2. Што ўбачыў гаспадар на градах?
3. Чаму гаспадар не стаў праганяць казулю?
4. Прачытайце твор самастойна і намалюйце словамі карціны да тэксту.
5. Якую назву апавяданню далі б вы?

## Развітальная песня

*Васіль Гурскі*

Мінула летняе раздолле, калі гадзінамі можна было качацца ў сухім гарачым пясочку ці плюхацца ў цёплых дажджавых лужынах.

Пахаладала. Неба зацягнулася сінімі хмарамі. Парывісты вецер зрывае пажоўклае лісце і поўнымі жменямі шпурляе яго на зямлю.

З самай раніцы імжыць дождж і трымае ў хаце Наташу і Аню. Праз акно дзяўчынкі любуюцца жоўтым уборам клёна, чырванаватым адлівам вішні, пурпурнымі гронкамі рабіны, зялёным аксамітам бэзу, карычневым кажухом дуба, залацістымі пасмамі бярозы.



Раптам з двара пачулася песня. Мо здалося? Сёстры прыслухаліся. Не, спяваюць! Наташа глянула ў сад.

На яблыні сямейка шпакоў хорам выводзіла чароўную мелодыю.

— Мама, чаму шпачкі спяваюць пад дажджом? — запытала Наташа.

— Яны ж намокнуць! — бедавала Аня. — Хай бы ў шпакоўні сядзелі.

— Што ж ім рабіць, дзеткі, калі надвор'е сапсавалася? — адказала маці. — Адмяніць канцэрт? Яны ж прыляцелі пасядзець перад далёкай дарогай ля роднага гняздзечка, дзе вывеліся і гадаваліся, прыляцелі падзякаваць вам за выратаванне.

Доўга слухалі дзеці развітальную песню. Аня ледзь не плакала ад жалю. Яна памахала птушкам рукой і крыкнула праз акно:

— Дзякуй, шпачкі! Да пабачэння!

Назаўтра выглянула сонца. Заблішчала ў яго халодных праменнях чырвона-жоўтая пазалота апошніх лістоў на аголеных дрэвах, заіскрыўся на зямлі прыгожы дыван, яшчэ больш пышны і стракаты, чым учора.

Дзяўчынкі выбеглі ў сад: мо зноў убачаць маленькіх спевакоў, пачуюць іх цудоўныя песні. Але ў садзе было нязвыкла ціха і сумна: шпачкі паляцелі ў вырай.



1. Чым любаваліся Аня і Наташа, гледзячы праз акно? Прачытайце.
2. Што пачулі дзяўчынкі?
3. Чаму птушкі спявалі пад дажджом? Прачытайце.
4. Якой была развітальная песня шпакоў? Якія пачуцці выклікала яна ў сясцёр?
5. Што хацелі ўбачыць дзяўчынкі ў садзе назаўтра?
6. Падзяліце тэкст на часткі. Дайце ім загалоўкі.
7. Падрыхтуйце пераказ твора па частках.

## Народныя прыкметы

✦ Жураўлі ляцяць высока — зіма яшчэ далёка, нізка — зіма ўжо блізка.

✦ Жураўлі ляцяць высока і няспешна, часта курлыкаючы, — восень будзе звонкая, чыстая.

✦ Жураўлі позна ляцяць у вырай — восень будзе цёплая і працяглая.

✦ Гусі адлятаюць у вырай — хутка прыйдзе зіма.

✦ Шпакі доўга не адлятаюць — восень будзе працяглая.

# У грыбы

Разгледзьце малюнкі. Прыдумайце пытанні да іх і складзіце апавяданне.











## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ

**1.** Па апорных словазлучэннях адгадайце назву апавядання.

а) Вяртаючыся са школы, віншаваць Ганну Пракопаўну, пабеглі наперагонкі, збіралі рамонкі, у час паспелі, паставілі ў слоік, адчулі ласку;

б) асеннімі замаразкамі, футравая шапка-вушанка, цецеручыныя чучалы, вырашыў паснедаць, дзікая гусь, заўважыла падман, знікла з вачэй, шэрае пёрка;

в) ідуць у лес, малады ельнічак, баравіковы лес, пайшлі прама, канаўка паўз дарогу, прыцішыў крок, некалькі сямеек чорнагаловікаў;

г) цікаўныя лясныя жыхары, прыселі на імшаную купіну, да стажка мурашніка, шэрабокі ababак, зеленаватая сцежка, бягуць чародамі, пагаманілі з Вадзікам, падаліся на іншыя палянкі.

**2.** З якіх твораў узяты наступныя радкі? Назавіце аўтараў гэтых твораў.

а) «Адышло, адкрасавалася лета. І неяк нячутна, спадцішка падкралася восень. Спачатку непрыкметна, але з кожным днём усё спарней і гусцей кладуцца кругом яе фарбы-вясёлкі»;

б) «Раптам з двара пачулася песня. Мо здалося? Сёстры прыслухаліся. Не, спяваюць! Наташа глянула ў сад»;

в) «Шмат у лесе дзічак — і груш, і яблынь. Ідзеш, ідзеш, і раптам стомленае вока як не ўзрадуецца»;

г) «Няма лістоў, якія аднолькава б ападалі. Колькі б іх ні было ў лесе — і кожны з іх па-свойму з асенняй зямлёй сустракаецца».

**3.** Да якіх твораў гэтыя малюнкі?









**4.** Назавіце прадмет, да якога падыходзяць гэтыя прыкметы.

Круглы, чырвоны, спелы…
Круглая, спелая, жоўтая…
Круглае, залатое, гарачае…
Гарачае, ураджайнае, дажджлівае…

**5.** Складзіце апавяданне на тэму «Вось і восень прыйшла».

Словы для выкарыстання: падкралася спадцішка, ад подыху ветрыку, яркая пазалота, рознакаляровыя караблікі на вадзе, клін жураўлёў у небе, развітальная песня.

# ДЗЕ КАРАНІ ТВАЕ, АДКУЛЬ ТВОЙ РОД ПАЧАЎСЯ...



## Адкуль пайшоў твой род?

*Барыс Сачанка*

Што такое жыццё? Дзеля чаго даецца яно чалавеку?

Узыходзіць сонца і заходзіць... Святло — цемра, дзень — ноч... І зноў: святло — цемра, дзень — ноч... Прылятаюць з выраю птушкі і адлятаюць у вырай... Зеляняюць дрэвы, кусты і жаўцеюць, скідваюць з сябе лісце... Падае ў зямлю зерне, прарастае, дае ўсходы, і новае зерне — новае насенне... Вясна, лета, восень, зіма... І зноў: вясна, лета, восень, зіма... За адным пакаленнем людзей ідзе яшчэ і яшчэ пакаленне. Што значым усе мы ў гэтым няспынным і вечным кругавароце? У чым сэнс чалавечага жыцця? У каго спытаць? А можа... і не пытаць ні ў кога ні пра што, а жыць як набяжыць... Жыць, як жылі бацькі, дзяды, прадзеды... А яны... Што ведаем мы пра нашых

бацькоў, дзядоў, прадзедаў, свой род, сваіх продкаў і пра іх жыццё-быццё, іхнія думкі і мары, клопат і дбанне?



***Дба́нне*** — праяўленне ўвагі да патрэб і запатрабаванняў каго-небудзь, турбаванне пра каго-, што-небудзь.



1. Ці задумваліся вы, адкуль пайшоў ваш род? Дзе вашы карані?
2. Якое месца займае бацькоўскі дом у жыцці чалавека?
3. Прачытайце апошні сказ тэксту. Як вы яго разумееце?
4*. Складзіце невялікае апавяданне на тэму «Адкуль твой род пачаўся?». Выкарыстайце пры гэтым фотаздымкі, партрэты блізкіх і родных вам людзей.

## Прыказка

✦ Дзе маці нарадзіла, там і радзіма.

## Продкі

*Еўдакія Лось*

Мая Радзіма —
Жытні колас,
Сінь мурагу, язміну цвет.
Яна —
Пілы гарачы голас,
Калёс цяжкіх глыбокі след...

Мая Радзіма —
Дзе з-за бору
Ўзыходзіць месяц уначы,
Дзе ў братнім ладзе,
У дружным зборы
Жылі калісьці крывічы...

Валілі лес, аралі ляды,
Сушылі гуртам нераты
І да туманных даляглядаў
Ганялі спраўныя плыты.
Рабілі зрубы залатыя,
Нарогі, гонкія чаўны
І сцены белыя Сафіі
Над плынню быстраю Дзвіны.
Умеў мой продак човен ладзіць,
Паліць ікластыя карчы.
Таму, хто ў роспачы, —
дарадзіць,
Таму, хто ў горы, —
памагчы...



***Дара́дзіць*** — даць параду, параіць.
***Ля́да*** — расчышчанае месца ў лесе пад пасеў альбо сенажаць.
***Муро́г*** — сакавітая трава.
***Наро́г*** — частка плуга, якая надразае пласт зямлі знізу.

***Не́рат*** — рыбалоўная снасць у выглядзе конусападобнай сеткі, нацягнутай на драўляныя абручы.

***Сафі́я*** — Сафійскі сабор.

***Язмі́н*** — дэкаратыўны куст з пахучымі белымі кветкамі, сабранымі ў невялікія гронкі.



1. Які сэнс укладвае Еўдакія Лось у назву верша? Што для яе Радзіма?
2. Якімі былі нашы продкі?
3. Чым займаліся нашы продкі? Якія радкі верша гавораць пра гэта? Прачытайце.
4. Падрыхтуйцеся чытаць верш выразна.

## Загадка

У лесе выразана, гладка вычасана, пяе, заліваецца. Як называецца?

## Дудка

*Эдзі Агняцвет*

Мы з дзедам дудку змайстравалі,
Яна зайграла на зары,
Музычнай казкаю назвалі —
Прыходзьце,
слухайце, сябры!

Сініцы, берасцянкі быццам
З акенца дудачкі ляцяць.
А як паклічу я крыніцы, —
Галаснікі аж зазвіняць!

І над усёй зямлёй, здаецца,
Вясёлка звонкая ўзышла.
Жывое мае дудка сэрца —
Для песень шчырых і святла.

***Галасніќі*** — медныя або керамічныя пасудзіны ў форме гаршкоў, якія ўмуроўваюцца ў сцены дзеля паляпшэння акустыкі.

?

1. Якую дудку змайстравалі дзед з унукам? Як яе назвалі? Чаму?
2. Як вы разумееце выразы: *«з акенца дудачкі ляцяць», «жывое мае дудка сэрца»*?
3. З якім пачуццём трэба чытаць гэты верш?



## Дзень нараджэння

*Васіль Вітка*

Прыемна, калі людзі помняць твой дзень нараджэння, віншуюць цябе, жадаюць здароўя, поспехаў.

А ты ці помніш дні нараджэння сваіх родных і блізкіх: маці, бацькі, бабулі, дзядулі, братоў і сясцёр?

Колькі чалавек у сям'і — столькі і дзён нараджэння.

У гэты дзень дорага кожнаму тваё віншаванне. Прыемна будзе, калі ты падрыхтуеш і падарунак — кветкі, якія ты вырасціў, малюнак або рэч, зробленую сваімі рукамі. Непрыгожа прасіць у маці, бацькі, дзядулі, бабулі грошай, каб купіць ім падарунак.

Дзень нараджэння — сямейнае свята. Не трэба абвяшчаць усім і кожнаму, калі ў цябе дзень нараджэння. Блізкія табе людзі і твае сябры самі помняць, калі ты нарадзіўся.



?

1. Чаму прыемна, калі людзі памятаюць пра ваш дзень нараджэння?
2. А ці памятаеце вы дні нараджэння сваіх родных і блізкіх?
3. Як вы адзначаеце дні нараджэння? Якія падарункі, віншаванні рыхтуеце?
4. Чаму не трэба абвяшчаць пра свой дзень нараджэння ўсім? Прачытайце.

## Стол

*Іван Муравейка*

Дружная сямейка:
Мама, тата, дзед,
Васілёк, Сяргейка,
Глеб і я, Міхед.



Будны дзень ці свята —
Смеху повен дом.
Толькі цеснавата
За адным сталом.

Не пайшлі мы з Глебам
Бегаць у футбол.
З дошак самых лепшых
Робім новы стол.

Вось ён, стол, памалу
Стаў на ножкі ўсе.
Дзе прапала мама?
Хай абрус нясе.

Сядзе ўся сямейка:
Мама, тата, дзед,
Васілёк, Сяргейка,
Глеб і я, Міхед.

?

1. Чаму хлопчыкі вырашылі зрабіць новы стол?
2. Ад чаго яны адмовіліся дзеля справы?
3. Ці атрымалі Глеб з Міхедам асалоду ад сваёй працы?

## Мой дом

*Васіль Сумараў*

У кожнага з нас ёсць дом. У каго ў горадзе, у каго ў вёсцы. Першы мой дом, дзе прайшло маё маленства, асабліва мне дарагі.

Паспрабуйце спярша ў думках, а пасля на паперы ў альбоме намаляваць свой дом. Які ён? Што асабліва адметнае і дарагое ў вашым доме і паблізу яго — двор, дрэвы, вуліца, мясціны, дзе вы з сябрамі гуляеце ў свае любімыя гульні? А самыя родныя і блізкія вам людзі, суседзі, знаёмыя? І яны ўсе ў вас перад вачыма.



Мая карціна таксама называецца «Мой дом». Гэта дом, у якім я нарадзіўся і вырас. Некалі ён мне здаваўся вельмі вялікім. Але кожны раз, калі я падыходжу да майго дома, да мяне вяртаецца маё маленства. Вось зусім яшчэ маладая, але ўжо з цяжкімі стомленымі рукамі, мая маці. Успамінаю свайго бацьку. Колькі шчасця было, калі ён вярнуўся дадому пасля вайны з перамогай, з двума салдацкімі ордэнамі Славы!

Так складалася гэта карціна. У кожнага — свой дом, сагрэты цяплом і ласкай блізкіх людзей.

Мне хацелася, каб кожны, хто будзе глядзець гэту карціну, успомніў сваё маленства. Мне ў маім доме і вакол яго дарагая кожная прыкмета.

Вось паўз наш дом з грукатам пралятаюць цягнікі. Праводзячы іх вачыма, хацелася і самому ляцець за імі ўслед, каб убачыць яшчэ неспазнанае і невядомае.

Тут, у маім вясёлым чырвоным доме з расчыненымі насцеж вокнамі, усё мне так блізка і дорага. Мае суседзі, мае сябры — усе простыя і добрыя людзі. Кожны заняты сваёй работай, у кожнага — свой клопат.

З дома, дзе мы нарадзіліся, пачынаецца Радзіма. Стаўшы дарослымі, мы яшчэ мацней любім яе. І кожны з нас гатовы берагчы, шанаваць і свой дом, і сваю Радзіму.

?

1. Ад чыйго імя вядзецца апавяданне?
2. Што намаляваў мастак на карціне «Мой дом»? Пра што ён хацеў расказаць? Чаму ўзнікла такая ідэя?

3. Прачытайце апошні абзац тэксту і адкажыце, які сэнс закладзены аўтарам у гэтыя сказы. Да чаго ён заклікае?
4. А што б вы расказалі пра свой дом?
5. Намалюйце свой дом.

## Цудоўныя кветкі цёткі Алены

*Алена Лось*

Мы любім хадзіць у госці да цёткі Алены. Рахманы сабака Дунай заўсёды прыветна сустрэне, а ў каморы жыве кошка з кацянятамі. Кацяняткі ўсе прыгожыя, шэранькія, а адно, самае прыгожае, — чорнае, як той вугольчык. Нам яго, можа, і аддала б цётка Алена, але куды з ім на дзясяты паверх у горадзе? Тут каткі на волі жывуць, прыбягаюць у хату толькі малака папіць ды на печы пагрэцца. Як ты такога ў кватэры замкнеш!

Пайшлі мы сёння да цёткі Алены не праз сяло, а гародамі. А там, за дарогаю, да самага лесу бясконцае поле лёну. Ветрык набяжыць — па полі хвалі ідуць, ну зусім як па Прыпяці, адно што лодак няма.

На Аленчыным агародзе — маленькі будынак. Адчыніла цётка Алена яго, а там кросны стаяць. Вялізныя, аж пад самую столь. Ад слупоў гладкія вяроўкі ідуць, на вяроўках — дошчачкі, густа ніткамі пераплеценыя, а ўнізе педалі, як у піяніна. Адну педаль нагой прыціснеш — адна дошчачка з ніткамі падымаецца, чаўначок з каляровай ніткай узор ператыкае.



Потым павяла нас цётка Алена ў сваю вялікую хату і разлажыла на ложках посцілкі. Няўжо ўсё з лёну зроблена на гэтых ціхаходных драўляных кроснах! І ружы, і зоркі, і птушкі, і дзівосныя расліны...

А ручнікі! Кожны сваім узорам вытканы, карункамі абшыты. А над ложкам у рамачцы ганаровая грамата, атрыманая на выставе ў сталіцы.

Во якая чараўніца наша цётка Алена!

***Кару́нкі*** — ажурныя вырабы з ільняных нітак для аздобы бялізны, адзення.

***Рахма́ны*** — спакойны, нязлосны.

?

1. Да каго дзеці любяць хадзіць у госці?
2. Што дзеці ўбачылі ў маленькім будынку, куды іх адвяла цётка Алена? Прачытайце.
3. Што ўразіла дзяцей у хаце? Прачытайце.
4. За што ўзнагародзілі цётку Алену?
5. Чаму аўтар называе цётку Алену чараўніцай?
6. Падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу апавядання.



## Бабка-чараўніца

*Леанід Шырын*

На абрусах
І сурвэтках
Палымнеюць
Руж букеты,
Тут і пеўні,
Тут і гусі...
Вышывала іх
Бабуся.
— Чараўніца
Наша бабка! —
Аж здзіўляецца Агатка.
Возьме ў рукі
Палатно —
Ажывае ўраз яно.

?

1. Што вышывала бабуся-чараўніца?
2. Чаму здзіўляецца Агатка?
3. Што ў гэтым вершы агульнага з апавяданнем «Цудоўныя кветкі цёткі Алены»?
4. Падрыхтуйцеся чытаць верш выразна.

## Жоржык

*Іван Навуменка*

Мы збіраліся на зарослым травой-муравой выгане, які ўтварыўся паміж дзвюма вуліцамі, што нібы разбегліся перад чыгуначным пераездам. Мы — гэта мой стрыечны брат Адам, Пеця Жаваронак, Жоржык і я.

Жоржык, круглы сірата, жыў у нашых суседзяў Кісялёў. Яго бабка Кацёра была вечна хмурая, непрыветлівая, і мы, дзятва, яе не любілі. Дзед Жоржыка Тарас — безбароды, з маршчыністым тварам — быў зацяты паляўнічы, любіў спяваць.

На нашых вачах Жоржык яшчэ меў маці і бацьку. Маці яго, дачка Кісялёў, прыехала з горада лячыцца — захварэла на сухоты. Муж яе, цёмнатвары, плячысты, кучаравы, з чорнымі самотнымі вачамі, таксама быў хворы. Яны часта сядзелі ў садзе, елі яблыкі, пілі малако, дыхалі чыстым паветрам. Але нішто не дапамагло. Спачатку памёр бацька Жоржыка, потым — маці.

Жоржык застаўся жыць у дзеда і бабы. У яго вялікіх чорных вачах свяціўся невымерны сум. Ён, здаецца, ніколі не смяяўся. Толькі зрэдку ўсміхаўся, і ў такія хвіліны яго шыракаваты твар рабіўся весялейшым і прывабнейшым.

У нас былі бацькі, і мы ніколі не крыўдзілі Жоржыка. За здадзеныя пустыя бутэлькі атрымлівалі пакуначкі цукерак-падушачак, дзялілі іх і Жоржыку давалі на цукерку ці дзве больш.

Мы ўмелі знаходзіць гнёзды земляных пчол, чмялёў, выкалупваць з зямлі леташнія арэхі, якія толькі-толькі пачыналі прарастаць. Ведалі, дзе расце зайцава шчаўе. І гэтых лясных ласункаў таксама не шкадавалі Жоржыку.

Вучыліся мы не вельмі добра, за гульнямі, бегатнёй не бачылі белага свету. У класе задавалі складаныя задачы. Пра два цягнікі, якія з рознай хуткасцю выйшлі насустрач адзін аднаму, або пра два басейны, якія напаўняюцца вадой з розных кранаў. Жоржык рашаў іх хутка, нібы семкі лускаў. Як адмысловы матэматык, ён мог памножыць любы двухзначны лік на такі ж двухзначны ці трохзначны і, не пішучы нічога на паперы, даваў правільны адказ.

Мы дапытваліся ў Жоржыка:

— Як ты гэта робіш?

— Проста. Множу сотні, дзясяткі, адзіночныя лікі. Потым складваю.

— У цябе адказ атрымліваецца раней, чым у нас на паперы.

Жоржык толькі паціскаў плячамі...

Аднойчы Жоржык не прыйшоў у школу. Потым мы дачуліся: да Кісялёў з дзіцячага прытулка прыязджала жанчына. Яна забрала Жоржыка з сабой у суседні горад, дзе размяшчаўся дзіцячы прытулак.

Зараз мы з нецярплівасцю чакаем ад Жоржыка пісьма...



***Стрые́чны брат*** — сын цёткі ці дзядзькі.

***Сухо́ты*** — тое, што і туберкулёз, хвароба лёгкіх.

? 1. Чаму ў вачах Жоржыка быў сум?
2. Каго вам было шкада? Чаму?
3. Што здарылася з бацькамі Жоржыка?
4. Як дзеці адносіліся да Жоржыка?
5. Як Жоржык вучыўся ў школе? Прачытайце.
6. Куды аддалі Кісялі Жоржыка?
7. Перакажыце тэкст сцісла па плане:
   - Круглы сірата.
   - Жыццё ў дзеда з бабай.
   - Адмысловы матэматык.
   - Дзіцячы прытулак.
8. Прыдумайце больш шчаслівы канец гэтага апавядання.

## Прыказкі

✦ Добрага добра і ўспамінаюць.

✦ Добры чалавек добрымі вачамі на ўсё глядзіць.

✦ Не цані чалавека па твары, а цані па душы.

✦ Лепш самому быць пакрыўджаным, чым каго іншага пакрыўдзіць.

* * *

*Васіль Вітка*

Так маці пе́стуе цябе,
Глядзіць, як вока у ілбе.
А ты, сыночак матчын,
Як будзеш ёй удзячны?

***Глядзі́ць, як во́ка у ілбе́*** — клапоціцца, беражэ.

? 1. Што значыць «быць удзячным бацькам»?

## Бацькоўская хата

*Іван Калеснік*

Як соладка спіцца
У матчынай хаце.
Тут месяц глядзіцца,
Тут зоркі раяцца.

І лекі не трэба,
Калі слабаваты.
Ёсць роднае неба,
Ёсць родная хата.

Тут — шляху пачатак
І сілы крыніца.
Бацькоўская хата —
Радзімы зямліца...



1. Як спіцца ў бацькоўскай хаце? Чаму не патрэбны лекі? Падмацуйце свае выказванні словамі з верша.
2. Чаму бацькоўская хата дарагая кожнаму чалавеку?
3. Як вы разумееце наступныя радкі верша: *«Тут — шляху пачатак і сілы крыніца», «Бацькоўская хата — Радзімы зямліца...»*?
4. Вывучыце верш на памяць.

# Сябры

Разгледзьце малюнак. Складзіце па ім апавяданне.



*Словы для выкарыстання:* бабуля Ганна Ігнатаўна, даглядалі кветкі, мылі падлогу, чыталі кніжкі, расказвала пра сваё жыццё, сяброўская размова, радавалася прыходу гасцей.

## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ

**1.** З якіх вершаў узяты наступныя радкі?

а) «Мая Радзіма —
Жытні колас,
Сінь мурагу, язміну цвет»;

б) «На абрусах
І сурвэтках
Палымнеюць
Руж букеты...».

**2.** З якіх твораў узяты ўрыўкі? Хто іх аўтар?

а) «Што ведаем мы пра нашых бацькоў, дзядоў, прадзедаў, свой род, сваіх продкаў і пра іх жыццё-быццё, іхнія думкі і мары, клопат і дбанне?»;

б) «У гэты дзень дорага кожнаму тваё віншаванне. Прыемна будзе, калі ты падрыхтуеш і падарунак — кветкі, якія ты вырасціў, малюнак або рэч, зробленую сваімі рукамі»;

в) «Пайшлі мы сёння да цёткі Алены не праз сяло, а гародамі. А там, за дарогаю, да самага лесу бясконцае поле лёну»;

г) «Жоржык застаўся жыць у дзеда і бабы. У яго вялікіх чорных вачах свяціўся невымерны сум. Ён, здаецца, ніколі не смяяўся».

**3.** Прачытайце прыказкі і выберыце тыя, што падыходзяць да тэкстаў гэтага раздзела. Абгрунтуйце свой выбар.

Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка.
Кожнаму сваё дзіця любае.
Дзе ў сям'і лад, там і дзеці добра гадуюцца.
Птушка рада вясне, а дзіця маці.
Усякай птушцы сваё гняздо міла.
Няма лепшай хаткі, як у роднай маткі.

**4.** Складзіце свой радавод у выглядзе дрэва.

**5.** Да якіх твораў адносяцца гэтыя малюнкі?





# МЫ ЎСЕ СТАРАЦЦА БУДЗЕМ ДЗЕЛЯ КАРЫСЦІ ЛЮДЗЯМ



## Хто што робіць

*Васіль Вітка*

Даглядае пчол пчаляр,
Стол майструе сталяр,
Шыбы ў вокны ставіць
шкляр,
Беліць сцены маляр,
Чысціць комін камінар,
Сыры варыць сыравар,
Ну а цукар — цукравар.

З футра выкраіў каўнер
Мне на паліто кушнер,
Боты мне пашыў шавец,
Новыя штаны — кравец,
Цацку з дрэва майстры
Выразалі — разьбяры.
Цяпер сам разбяры,
А што робяць ганчары,

Бандары, цесляры,
Муляры, млынары,
Дактары, друкары,
Хто даглядае трактары,
А хто коней на стайні,
А хто вучыць нас?

***Кушне́р*** — майстар, які вырабляе шкуры пушных звяроў на футра.



1. Якія малюнкі вам уяўляліся пры чытанні верша? Што дапамагала вашаму ўяўленню?
2. Пра якія новыя прафесіі вы даведаліся з верша Васіля Віткі?
3. Адкажыце на пытанні верша.

## Чароўнае шкло

*Арнольд Пятровіч*

Хочаце верце, хочаце не, але шкло з’явілася на зямлі раней за чалавека. Хто ж тады выробляў яго, калі не было людзей? А ніхто, сама прырода. У час вывяржэння вулканаў на паверхню зямлі выкідвалася вогненная лава. Паступова застываючы, утваралася вулканічнае шкло — абсідыян. У наш час з яго вырабляюць буйныя панелі, што ідуць на будаўніцтва дамоў.

Але чалавек не мог жыць толькі тым, што давала прырода. Як сведчаць знаходкі, людзі яшчэ ў старажытнасці карысталіся вырабамі са шкла. У Берлін-

скім музеі ёсць пацерка, якой пяць з паловай тысяч гадоў. Археолагі адшукалі рэшткі шклаварных печаў, кавалкі шкла, шкляныя вырабы, вызначылі час іх узнікнення.

На тэрыторыі Беларусі часта сустракаюцца вёскі з назвай Гута. Можна меркаваць, што тут займаліся шкляной прамысловасцю. Бо гута — гэта печ або цэх, дзе вараць і выдзімаюць шкло.

Гуты даўно адышлі ў нябыт, сталі гісторыяй роднага краю. У нашы дні шкло, а таксама посуд з яго вырабляюць на заводах, дзе працуюць не адзін ці два майстры, а брыгады да ста чалавек. І ў кожнага — двухметровая металічная трубка. Схопяць трубкай з печы вогненны шарык, апусцяць у форму — і выдзімаюць збанок, вазу, бутэльку. Пасля яны паступаюць у печ для абпальвання, адтуль — на шліфоўку і паліроўку. І ў гэтай працы майстрам дапамагаюць машыны-аўтаматы.

У Беларусі многа шклозаводаў. Гомельскі шклозавод вырабляе аконнае і вітрыннае шкло, загартаванае, звыштрывалае шкло для кабін аўтамабіляў і трактароў. Барысаўскі шклозавод дае крышталь. Полацкі завод шкловалакна выпускае тканіну, якая не гарыць, не баіцца сырасці. З яе шыюць адзенне для кавалёў, ліцейшчыкаў, пажарных.

Далёка за межамі рэспублікі славіцца сваёй прадукцыяй шклозавод «Нёман». Яму ўжо за сто гадоў. Здзіўляюць, вабяць прыгажосцю посуд, скульптурныя кампазіцыі, вырабленыя з нёманскага шкла.

Ёсць на заводзе «Нёман» і свой музей. Заходзіш і заміраеш, нібыта ў казачнае царства трапіў: усё іскрыцца, мігціць, пераліваецца, зачароўвае сваім хараством, крыштальнай таямнічасцю.

Выраб шкла і крышталю, дзівосных рэчаў з іх — праца, якая патрабуе ад майстра незвычайнага ўмельства, старання і фантазіі. Ёсць у гэтага рамяства і свае сакрэты. Яны перадаюцца, як спадчына, з пакалення ў пакаленне: ад бацькоў да дзяцей, да ўнукаў... Рабочымі дынастыямі славіцца, напрыклад, Барысаўскі завод. Старэйшы з дынастыі Пашкоўскіх, Валянцін Аляксандравіч, прыйшоў сюды яшчэ ў 1925 годзе. Потым бацькава рамяство перанялі пяцёра сыноў і дачка.

Вырабы беларускіх майстроў экспанаваліся на многіх міжнародных выставах, заваявалі шмат узнагарод, увайшлі ў экспазіцыі буйнейшых музеяў свету.

Ёсць дынастыі, ёсць традыцыі, ёсць спадчына. Значыць, вечна будзе жыць на Беларусі гэта старажытнае рамяство, гэта мастацтва — казка са шкла і крышталю.

?

1. Калі з'явілася на зямлі шкло? Прачытайце.
2. Як вырабляецца шкло ў наш час? Прачытайце.
3. Якія шклозаводы працуюць у Беларусі? Што яны вырабляюць?
4. Прачытайце тэкст самастойна. Калектыўна складзіце план тэксту.
5. Раскажыце аб тым, як вырабляюць посуд са шкла.

## Давайце пасадзім па дрэўцу

*Хведар Гурыновіч*

Давайце, юныя сябры,
Па дрэўцу восенню пасадзім
Ля кожнай лавачкі ў двары
І паўз сцяжынкі ў школьным садзе.

Рабіны, ліпкі і кляны —
У скверы, у парку, на алейцы.
Хай толькі прымуцца яны,
Маленькія перасяленцы.

Падсыплем мяккае зямлі
Пад кожны саджанец рыдлёўкай.
Яны ў глушы лясной раслі,
Прывыкнуць будзе ім нялёгка.

Калі ж на месцейка сваё
Карэньчык кожны ў ямцы ляжа,
Калочкі вострыя заб'ём
І камялькі да іх прывяжам.

Няхай і паркі, і сады
Шумяць зялёным чуйным веццем...
Той, хто хоць дрэўца пасадзіў, —
Невыпадкова жыў на свеце.





1. Да чаго заклікае паэт?
2. Чаму аўтар называе дрэўцы маленькімі перасяленцамі?
3. У якіх радках твора заключана галоўная думка? Прачытайце.
4. Карыстаючыся тэкстам, раскажыце, як трэба садзіць дрэвы.

### Прыказкі

- Хто дрэва пасадзіў — дабро людзям зрабіў.
- Садок садзіць — жыццё харашыць.

## Зубны доктар

*Аляксандр Паскробышаў*

«Куды ж гэта дзед пайшоў? — падумаў Васілёк, заглянуўшы ў дзедаву майстэрню. — Заўсёды ён тут, цяпер некуды падзеўся».

Раптам Васілёк успомніў, што дзед збіраўся ісці па каня, каб адвезці на калгасны двор мётлы, што ляжалі каля сцяны аж да самай страхі. Адмысловыя мётлы! Тоўстыя! Перавязаныя з аднаго канца зялёнымі гнуткімі лазоўкамі.

«Толькі чаму гэта дзед іх на палкі не ўздзеў? Вунь колькі іх стаіць у кутку, гладкіх, ачышчаных ад кары — бяры і асаджвай».

Ён вырашыў дапамагчы дзядулю, але ў гэты момант у майстэрню ўвайшла цётка Паўліна. У руках яна трымала граблі. А ў граблях не было некаторых

зубоў. Ну зусім як у старога чалавека. Вельмі старыя, відаць, былі тыя граблі.

— А дзе ж дзед? — запыталася цётка ў хлопчыка. Васілёк нічога не адказаў на гэта. Не спяшаючыся агледзеў цётчыны граблі і прагаварыў:

— Ды вы не турбуйцеся, цётачка. Я сам пастаўлю зубы, тут у дзядулі іх шмат. Запасных.

Цётка Паўліна недаверліва пачала сачыць за яго работай. І не паспела суседка агледзецца, як Васілёк спрытна ўставіў адзін за адным у свабодныя дзірачкі ўсе тры зубы.

— Вось дзякую табе, — узрадавалася цётка Паўліна, беручы ў яго адрамантаваныя граблі. — Але ж гэты зуб крыху меншы за астатнія, — заўважыла яна.



— Не турбуйцеся, цётачка, — адказаў Васілёк, — вырасце зараз і гэты зуб!

Ён зрабіў маленькі клінок, стукнуў некалькі разоў малатком — от і ўсё!

— Вось які ты малайчына! — усміхнулася цётка.

— А я ўжо добра ўстаўляю зубы, мне гэта сам дзед казаў, — крыху саромеючыся, пахваліўся хлопчык, праводзячы да дзвярэй суседку.

— Ну, бывай, маленькі майстар! Вялікі табе дзякуй, зубны доктар! — ветліва ўсміхнулася яму цётка Паўліна і, закінуўшы граблі на плечы, пайшла працаваць.

?

1. Чаму аўтар назваў апавяданне «Зубны доктар»? Якую іншую назву можна даць гэтаму твору?
2. Знайдзіце словы і выразы, якія адлюстроўваюць спрытнасць хлопчыка ў рабоце.
3. Прачытайце тэкст самастойна і падзяліце яго на часткі.
4. Складзіце план апавядання і падрыхтуйце сціслы пераказ тэксту па гэтым плане.
5. Праінсцэніруйце размову Васілька з цёткай Паўлінай.

## Воля-кулінарка

*Іван Аношкін*

У Волі сёння свята: ёй споўнілася дзевяць гадоў. Дзяўчынка чакала гасцей.

Пачастунак сябрам Волька збіралася прыгатаваць сама. Распытала ў бабулі, як спячы пірог, і ўзялася за работу. Яна рашчыніла цеста, усыпала цукру, ванілі, усялякіх спецый з бабульчыных бляшаначак.

— Не забудзь, унучка, соды ўсыпаць, — падказала бабуля.

— А дзе яна, сода?

— Ды вунь, — занятая сваёй справай, кіўнула бабуля на шафу.

Волька спрытна ўзабралася на табурэтку, знайшла на шафе соду, шчодра сыпанула ў цеста.

Госці завіталі вясёлай гурбой, уручылі падарункі: хто кніжку з малюнкамі, хто каляровыя алоўкі, хто шаўковыя стужкі. Пятрусь з Юркам надумаліся пацягаць імянінніцу за вушы, каб вялікай расла. Ледзьве адкараскалася ад іх Волька, пачала гасцей за стол запрашаць. Кубкі з чаем прынесла, пірог падала: частуйцеся, калі ласка!

— Сама пякла, — пахвалілася Волька, разразаючы вострым нажом румяную скарынку пірага.

— Паспытаем, — Пятрусь першы адкусіў пірог. Адкусіў і чамусьці скрывіўся.

Нож выпаў з Вольчыных рук. «Чаму не падабаецца гэтаму Петрусю?» Узяла яна кавалачак пірага ў рот і... таксама зморшчылася. А бабуля, паспытаўшы, з дакорам паківала галавой.

— Колькі ж ты соды ўсыпала?

— Усю, што ў бляшаначцы была, — праз слёзы адказала Волька. — Каб пірог быў смачнейшы...

— Эх ты, кулінарка! — пляснула далонямі бабуля. — Хапіла б і дзвюх лыжачак...

Яно, можа, і нядобра смяяцца з імянінніцы, але як тут утрымаешся. І госці смяяліся. А Волька, здавалася, вось-вось заплача.

— І не такое яшчэ бывае, — суцяшала яе бабуля. — Горш, калі хто ні за што не бярэцца... Я вас, унучкі, сваім пячэннем пачастую...

Хлопчыкі і дзяўчынкі пілі чай з бабульчыным пячэннем, пасмейваліся. Але Волька больш не крыўдзілася на іх.



***Адкара́скацца*** — пазбавіцца чаго-небудзь, адчапіцца ад чаго-небудзь.



1. Пра якое свята ідзе гаворка ў апавяданні?
2. Якія падарункі прынеслі дзеці імянінніцы? Прачытайце.
3. Які пачастунак прыгатавала сябрам дзяўчынка?
4. Чаму гасцям не спадабаўся пірог?
5. Хто прыйшоў на выручку дзяўчынцы? Як пра гэта напісана ў творы? Прачытайце.
6. Як вы разумееце словы бабулі: *«Горш, калі хто ні за што не бярэцца...»*?
7. Перакажыце твор блізка да тэксту.

## Глячок дапамог

*Мікола Янчанка*

Выйшаў Данік на вуліцу. Бачыць, з другога канца вёскі Сенька ідзе. Задаволены, усміхаецца.

— Ты што гэтакі вясёлы? — пытаецца Данік. — Каб не канікулы, падумаў бы, што дзясятку атрымаў.

— Лічы, атрымаў, — гаворыць Сенька. — Дзядзька Пятро на камбайне пакатаў. Во! — і пайшоў сваёй дарогай, зззяючы.

«Мне б пакатацца!» — падумаў Данік і безнадзейна махнуў рукой. Бо ні бацька, ні дзядзька яго камбайнерамі не працавалі.

А сонца пячэ. Ні хмурынкі, ні ветрыку. Горача! Пастаяў Данік на вуліцы, пакруціў галавою, выглядваючы месцейка ў цяньку. Не выглядзеў і ў стопку падаўся. Кваску папіць. Яго бабуля цудоўны хлебны квас робіць. З сушаных груш і яблыкаў. Вунь і цяпер у куточку цэлая дзяжа стаіць. А побач глячок. Таксама з квасам. Глячок з сакрэтам: ён порысты. Таму вільгаць на паверхні выступае, выпараецца — і квас заўсёды прыемны, халодненькі.

Узяў Данік глячок і тут жа на зямлю паставіў. Бо ў галаву яму шчаслівая думка прыйшла.

І бабуля Хрысціна ўхваліла яго намер...

Заткнуў Данік глячок ліпавай затычкай, паставіў у сетку і панёс у поле. Адзін з камбайнаў адразу за вёскай працаваў. Пшаніцу ўбіраў. Спыніўся Данік на ўскрайку і чакае, пакуль камбайн з другога канца падыдзе. Поле роўнае, і часам здавалася, што камбайн стаіць на месцы. І толькі нарастаючы гул матора сведчыў, што машына набліжаецца.



Дзядзька Васіль яшчэ здаля ўгледзеў Даніка і глячок. Таму адразу, як пад’ехаў, спыніў камбайн і ўзмахам рукі запрасіў хлопчыка ў кабіну.




Падхапіў глячок, падтрымаў Даніка. Потым выцягнуў затычку і прагна прыпаў да горлачка. Толькі наталіўшы смагу, ён прывітаўся і пахваліў квас і Даніка:

— Цудоўны квас! Душу адратаваў. З сабою пару бутэлек ліманаду ўзяў. Дык нагрэўся ў кабіне. Дзякуй табе! І як гэта ты надумаўся?

— Пакатацца на камбайне захацеў, — шчыра прызнаўся Данік.

— Калі ласка! — усклікнуў дзядзька Васіль і, павярнуўшы камбайн, плаўна павёў яго па пшанічным моры.

З высокай кабіны зямля здалася Даніку зусім інакшай.

«Вырасту — абавязкова стану камбайнерам!» — вырашыў ён у думках.

Зрабілі круг. Бункер напоўніўся залатымі зярнятамі. І тут жа пад’ехала аўтамашына. Дзядзька Васіль уключыў шнэк, і ў кузаў хлынуў залаты паток. Збожжа шумела, як спорны летні дождж па даху.

Выгрузіўшы збожжа, дзядзька Васіль зноў папіў кваску, пачаставаў ім шафёра і папрасіў яго падвезці Даніка дадому.

Данік важна сядзеў у кабіне. Сустракаючы па дарозе сваіх сяброў, сігналіў, і тыя з зайздрасцю паглядалі на яго.

З таго часу Данік штодня выпраўляўся з глячком у поле. Частаваў дзядзьку Васіля і шафёра квасам, рабіў ганаровы круг на камбайне, а потым імчаў дадому ў кабіне аўтамашыны. Аж да таго незабыўнага дня, калі дзядзька Васіль з вянком залатых каласоў горда прайшоў па вуліцы. Звычайна ён ездзіў на матацыкле. А тады ішоў пехатою, расказваў усім пры сустрэчы, што выйшаў пераможцам у спаборніцтве камбайнераў. Пацікаў рукі і дзякаваў за віншаванні. Даніку таксама падзякаваў. І сказаў яму на вушка, што заваяваць першынство яму глячок дапамог.

***Бу́нкер*** — металічная скрыня ў камбайне для часовага захавання збожжа.

***Наме́р*** — замысел што-небудзь зрабіць.

***Сто́пка*** — невялікі будынак для захавання агароднiны.

***Шнэк*** — транспарцёр у камбайна, які прызначаны для ссыпкі зерня.

? 1. Пра што падумаў Данік пасля сустрэчы з сябрам?
2. Як хлопчык ажыццявіў свой замысел?
3. За што падзякаваў камбайнер Даніку?
4. Чаму квас у глячку заставаўся заўсёды прыемным і халодненькім?
5. Што вырашыў Данік пасля размовы з камбайнерам?
6. У якіх словах заключана галоўная думка твора?
7. Перакажыце ўрывак тэксту, які вам найбольш спадабаўся.

## Метрабудаўцы

*Казімір Камейша*

Ён расце, падземны горад.
Я даўно яго прысніў.
Вось і станцыі-падземкі
Апрануліся ў граніт.

Чуеш, з грукатам сталёвым
Пад зямлёй імчыць вагон,
А за ім па рэйках рэха
Паняслося наўздагон.

Толькі ноччу на хвіліну
Колы дух перавядуць.
І другім напрамкам, новым,
Тут праходчыкі ідуць.

Дастаюць — за пядзяй пядзю —
Скамянелыя пласты,
Рассякаючы далёка
Змрок зляжалы і густы.

Новы дзень блакітным вокам
Углядаецца здаля.
Ён расце, падземны горад,
Ён жыве, падземны шлях!

?

1. Пра які падземны горад піша паэт? Што вы можаце расказаць пра яго?
2. Як вы разумееце наступныя выразы: *«па рэйках рэха паняслося наўздагон», «дастаюць — за пядзяй пядзю — скамянелыя пласты», «новы дзень блакітным вокам углядаецца здаля»*?
3. Падрыхтуйце выразнае чытанне твора.

## Загадка

*Уладзімір Мазго*

Калі да меры даўжыні
Галосную дадаць —
Тады ў падземнай цішыні
Вагоны зашумяць.

## Падкідышы

*Васіль Гурскі*

1

Гаспадары перабраліся жыць у горад, а Пальму з сабою не ўзялі. Яна сумавала: няма каму лізнуць руку, ніхто яе не палашчыць. У яе з'явіліся новыя клопаты: кожны дзень шукаць ежу, месца для начлегу. Круцілася часцей за ўсё ля кароўніка, бо цёт-

ка Маша калі-нікалі частавала яе малаком, іншы раз Валодзя, сын даяркі, прыносіў лусту хлеба.

— Нешта сёння Пальма не сустракае цябе, — засмяялася неяк Каця, таксама даярка, калі жанчыны прыйшлі да кароўніка.

— Мо ўцякла куды, — адказала цётка Маша, — ці новага гаспадара знайшла?

Падаіўшы кароў, жанчыны выйшлі на двор. І тут раптам пачуўся радасны воклік Валодзі:

— Пальма ашчанілася ў зеллі!

Цётка Маша пайшла за кароўнік.

— Пяцёра!.. Ай-я-яй! Яны ж спякуцца на сонцы! Жанчына зрабіла гняздо з саломы ля сцяны кароўніка, абставіла яго дошкамі і перанесла шчанят. А вечарам, прыйшоўшы на работу, прынесла з сынам хлеба, некалькі костак. Валодзя нават катлет не пашкадаваў.

— Мамка, забяром іх дадому. Такія прыгожанькія!

— Хай жывуць з маці: ім малачко яе патрэбна.



## 2

Прайшло тыдні тры. Шчаняты падраслі, выпаўзлі ўжо з гнязда. Валодзя кожны дзень прыбягаў сюды. Ён за гэты час угаварыў-такі маму ўзяць сабе маленькага сабачку. Пальма пабегла за хлопчыкам, але ў гняздзе заскавыталі астатнія — і яна вярнулася. Доўга яшчэ хадзіла туды-сюды, не ведаючы, што рабіць.

Хлопчык быў рады. У яго свой сабака! Ён выгадуе з яго такога ж вялікага і разумнага, як Шарык у тэлефільме «Чатыры танкісты і сабака». Нават у гонар сабакі з кіно і свайго шчанючка назваў Шарыкам.

Валодзя паставіў у дрывотніку скрынку, заслаў дно анучкамі, паклаў туды Шарыка. Аббегаў паўвёскі, пакуль знайшоў соску, вечарам напаіў Шарыка свежым малаком і лёг спаць.

## 3

Раніцай маці пабудзіла сына, на твары яе была трывога.

— Бяда, сынок, прапаў наш Шарык! І куды ён мог падзецца?

Хлопчык усхапіўся і выбег з хаты. Аблазіў усе закуткі і нідзе не знайшоў. Ледзь не плача малы з гора. Здаецца, лягчэй было б, каб ведаў, дзе Шарык. Мо суседскі кот задушыў? Той можа — такі здаравіла!

Валодзя прыбег да дзядзькі Петруся і спытаў:

— Дзе ваш кот, дзядзька?

— На печы.

— Ён, мусіць, майго Шарыка з'еў, — няўпэўнена сказаў Валодзя.

— Яшчэ што выдумай! Кот не дурны, каб сабакамі ласавацца! Уцякло шчаня недзе ў агарод, заблыталася ў градах. Пакажы, дзе яно ў цябе было.

Дзядзька Пятрусь агледзеў двор, дрывотнік:

— Глянь, сабачыя сляды!

— Гэта не Шарыкавы, ён жа маленькі.

— Я і кажу, што вялікія. А чаго яны тут? Мо Пальма назад забрала?.. Ага, бачыце, пад дзверы падграбалася... Яе работа!

Хлопчык кінуўся да кароўніка. Як жа ён узрадаваўся, калі ўбачыў у гняздзе Шарыка!

— Не хочаш аддаваць? — гаварыў хлопчык Пальме. — Шкадуеш? Усё роўна забяру!.. Ты не злуй на мяне: расставацца з імі хоць калі прыйдзецца.

Валодзя злавіў шчаня, паказаў маме. І пабег да дзядзькі Петруся хваліцца, што знайшлася прапажа.

— Я ж казаў, што там ён. Глядзі, каб зноў не забрала — дарогу ведае! — папярэдзіў дзядзька Пятрусь.

## 4

Валодзя прыставіў да дзвярэй дошку — цяпер Пальма не пралезе ў дрывотнік! Вечарам ён доўга пільнаваў ля акна, каб прагнаць Пальму, калі тая прыбяжыць па Шарыка. Было ціха на двары, і хлопчык, знябыўшыся за дзень, заснуў на падаконніку. Клапатлівыя маміны рукі перанеслі яго на пасцель.

...Світала. Заспяваў певень: «Ку-ка-рэ-ку! Пара ўставаць! Нічога вы не ведаеце!»

Маці выйшла з хаты і забедавала:

— Гора мне з гэтым шчанём. Зноў, відаць, украла яго Пальма, — гаварыла сама сабе жанчына, убачыўшы кучу зямлі ля дрывотніка. Яна адкінула дошку, адчыніла дзверы і ажно пляснула рукамі ад здзіўлення:

— Што ж мне рабіць цяпер?

Ля Шарыка, паклаўшы галовы адно на адно, ляжалі астатнія шчаняты.

— Бедныя падкідышы! Адцуралася маці ад вас!

Пальма ж сваім сабачым сэрцам адчула, што яе дзяцей не пакрыўдзяць у гэтай хаце. І не памылілася. Днём гойсала яна па дварах, каб знайсці сабе штонебудзь паесці. А ноччу прыбягала карміць малых. Іншы раз, праўда, і днём наведвалася.

Шчаняты жылі разам яшчэ тыдні два, а пасля іх разабралі вясковыя дзеці.



***Адцура́цца*** — адрачыся, парваць сувязь, адносіны з кім-небудзь.

***Го́йсаць*** — хутка і мітусліва рухацца.

***Знябы́цца*** — змарыцца, змучыцца.



1. Што ўразіла вас у апавяданні?
2. Ці былі на самой справе шчаняты падкідышамі?
3. Што адчувала Пальма сваім сабачым сэрцам? Аб чым яна клапацілася?
4. Як вы можаце ахарактарызаваць Валодзю?
5. Падумайце, пра што вы хацелі б запытацца ў аўтара твора.
6. Якія эпізоды з апавядання вам хацелася б праілюстраваць?
7*. Складзіце план апавядання. Перакажыце твор.

## Прыказкі

*Васіль Вітка*

* * *

Добрая прыказка,
Як пры мяшку прывязка.
Хто прыказку скажа —
Мяшок з вузлом развяжа.

* * *

Назаўсёды зразумей,
Слова — не верабей.

* * *

Добра ўмець усё рабіць —
За плячыма не насіць.

* * *

Друг не той,
Хто мёдам губы мажа,
А сапраўдны той,
Хто праўду ў вочы кажа.

?

1. Прачытайце прыказкі. Як вы разумееце іх сэнс?
2. Якія прыказкі па змесце падыходзяць да твораў, што вы чыталі ў гэтым раздзеле?

## Новабудоўля

Разгледзьце малюнак і складзіце па ім апавяданне.



Словы для выкарыстання: пачалася новабудоўля, аднаўляецца вёска, асфальт, пракладзена дарога, фарбуе агароджу, даглядае кветкі.

## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ

**1.** Успомніце назвы тых твораў, якія вас зацікавілі ў гэтым раздзеле. Якія пытанні абмяркоўвалі?

**2.** Назавіце аўтараў наступных твораў.

«Хто што робіць», «Давайце пасадзім па дрэўцу», «Воля-кулінарка», «Падкідышы».

**3.** Да якіх апавяданняў, вершаў раздзела можна аднесці прыказкі?

Хто любіць працаваць, той не будзе доўга спаць.

Дзе няма ахвоты, там няма работы.

Дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота, там пуста.

**4.** З якіх вершаў узяты наступныя радкі?

а) «Даглядае пчол пчаляр,
Стол майструе сталяр,
Шыбы ў вокны ставіць шкляр,
Беліць сцены маляр...»;

б) «Давайце, юныя сябры,
Па дрэўцу восенню пасадзім...».

**5.** Назавіце «лішняга» героя ў творах.

а) «Зубны доктар»: Васілёк, дзед, Паўліна, маці;

б) «Воля-кулінарка»: Волька, бабуля, Пятрусь, Юрка, бацька.

**6.** Па малюнках вызначце назву апавядання і яго аўтара. Перакажыце апавяданне па малюнках.











## Адгадкі

С. 10. Дарога.
С. 11. Чарот.
С. 21. Званок.
С. 24. Кніга.
С. 29. Школа.
С. 46. Кніга.
С. 52. Бурацiна. Кропля.
С. 73. Грыб.
С. 92. Дудка.
С. 122. Метро.

# ЗМЕСТ

## Краіна мая, радасць мая, песня мая маладая...



## Раніцаю ў школу сыдземся мы зноў...

## Кажуць, у дарозе восень залатая...



## Дзе карані твае, адкуль твой род пачаўся...

## Мы ўсе старацца будзем дзеля карысці людзям

Вучэбнае выданне

**Вольскі** Артур Вітальевіч
**Гімпель** Ірына Андрэеўна

**Літаратурнае чытанне**

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка.* Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна.* Мастакі *Н. А. Хромава, І. А. Усенка.* Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка.* Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *М. І. Чаплаводскай.* Карэктары *К. В. Шобік, Н. І. Пархун, Н. М. Мамчыц.*

Падпісана ў друк 05.04.2013. Фармат $70 \times 90^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,95. Ул.-выд. арк. 4,29 + 0,47 форз. Тыраж 20 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

